ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА—PRICE $ 1.25

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
Post address: Bielarus, P. O. Box 178, Jamaica, N. Y. 11431
Год XXXII №311 Нью Ёрк — чырвень-ліпень — 1983 — June-July — NewYork Vol. XXXII № 311

## ПАГРОЗА ВАЙНЫ Й БЕЛАРУСЫ АМЭРЫКІ

Савецкая прапаганда вуснамі пісьменнікаў Алеся Адамовіча („Голас Радзімы", 13.I.83), Адама Мальдзіса („Літаратура і Мастацтва", 3.VI.83; Мальдзіс спасылаецца на газэту „Беларус") ды іншых абаронцаў камуністычнага рэжыму на Беларусі вінаваціць Беларусаў Амэрыкі за тое, што яны не пратэстуюць супраць палітыкі, якую ўрад Злучаных Штатаў праводзіць у галіне ўзбраеньняў.

Алесь Адамовіч зварачаецца да „амэрыканскіх Беларусаў" з пытаньнем:

„Дзейнасьць, жыцьцё ваша ў Амэрыцы, вашы пісаньні й справы — яны на што накіраваны і чаму садзейнічаюць, служаць: узаемазразуменьню і выратаваньню ад вайны і пагібелі народаў амэрыканскага й савецкага ці наадварот — дапамагаюць амэрыканскім каршуном? І як вы сябе пачуваеце, ведаючы, усьведамляючы, што з-за вашай сьпіны, можа, узьляціць ракета і накіруецца ў той бок, дзе Бацькаўшчына?"

І ў іншым месцы таго-ж артыкулу: „Земляком за акіянам запытаньне: дык чаму ўсё-ж служыць ваша жыцьцё, лёс ваш, які шмат хто і ня выбіраў сабе сам — чаму служыць: вайне, да якой так ліхаманкава рыхтуецца адміністрацыя мільянераў, ці міру паміж тымі, хто здольны адзін аднаго зьнішчыць?"

Дык адказваем Алесю Адамовічу, Адаму Мальдзісу ў іншым ад імя газэты „Беларус" і, спадзяёмся, ад імя шмат каго зь ейных чытачоў (пакідаючы тымчасам збоку Адамовічава несправядлівае вінавачаньне толькі Амэрыкі за напружаны стан савецка-амэрыканскіх дачыненьняў).

Беларусы Амэрыкі супраць тых, хто „ліхаманкава рыхтуецца" да ядзернае вайны, супраць марнаваньня народных грошай на ракеты й баяголовы, якіх ужо нароблена і ў Амэрыцы і ў Савецкім Саюзе гэтульки, што іх стане абодвум бакам, каб шмат разоў паўторна зьнішчыць адзін аднаго. Беларусы Амэрыкі — за двубаковае й спраўджальнае раззбраеньне, за мір у сьвеце, за свабодны кантакты паміж людзьмі, бо гэткія кантакты толькі дапамагаюць мацаваць мір.

Узяўшы амэрыканскіх Беларусаў кожнага ўпаасобку, пагляды між іх могуць розьніцца: адныя могуць думаць, што мір і свабода будуць трывалей забясьпечаныя, калі ўрад Злучаных Штатаў будзе праводзіць палітыку „цьвярдое рукі", іншыя — калі „змарозіць" свой ракетна-ядзерны арсэнал на сучасным узроўні пры ўмове, што Савецкі Саюз зробіць тое самае.

У амэрыканскіх сродках масавае інфармацыі, на вуліцах і плошчах гарадоў Амэрыкі вядуцца цяпер гарачыя дэбаты на тэму ваеннае небясьпекі й пагрозы зьнішчэньня чалавецтва ў самагубнай ракетна-ядзернай бойні. Пагляды тае ці іншае групы,таго ці іншага грамадзяніна на палітыку ўраду ў Амэрыцы выказваюцца ў маршах пратэсту, пэтыцыях, лістох да кангрэсмэнаў, міністраў, самога прэзыдэнта краіны. Меркаваньні й дамаганьні выказваюцца, пэўна-ж, самыя розныя — людзі ня думаюць на адзін манер у простых пытаньнях, а пагатоў у гэткім складаным пытаньні, як шляхі захаваньня міру й абароны свабоды. Пагляды вэтэранаў вайны розьняцца тут, скажам, ад паглядаў сьвятароў. Але кожны мае магчымасьць адкрыта заявіць тое, што ён думае. Пры ўсіх разыходжаньнях у гэтай вялікай спрэчцы, ясна адно: Амэрыканцы ня хочуць вайны з Савецкім Саюзам.

Амэрыканскія Беларусы, кожны індывідуальна, утаесамляюць сябе з выказваньнямі тае ці іншае групы ў гэтым пытаньні міру-вайны ды палітыкі ўзбраеньня ці раззбраеньня.

У прэзыдэнцкіх выбарах 1984 году Беларусы Амэрыкі аддадуць свае галасы, як і рэшта Амэрыканцаў, за кандыдата, пагляды якога на мір-вайну будуць найбольш прыймальныя для іх.

А ў выбарах гэтых, як Алесь Адамовіч з Адамам Мальдзісам добра, бадай, ведаюць, балатуюцца ня толькі кандыдаты рэспубліканцаў і дэмакратаў, але й кандыдаты іншых партыяў, у тым ліку камуністычнае. Амэрыканскі лад канкурэнцыі ідэяў не баіцца, наадварот — дае ідэям магчымасьць адкрыта спаборнічаць на палітычнай арэне, а выбаршчыкам — магчымасьць выказвацца ў патаемных выбарах у падтрыманьне тае ці іншае палітычнае праграмы. І калі амэрыканскія выбаршчыкі прагаласуюць ізноў за Прэзыдэнта Рэйгана (пры ўмове, што ён будзе кандыдаваць), дык гэта будзе значыць, што яны ўхваляюць і ягоны падыход да перамоваў з Савецкім Саюзам аб скарачэньні зброі, ягоную праграму міру.

Дык яшчэ раз:

Мы супраць вайны і асабліва супраць таго, каб на выпадак вайны, калі да яе дойдзе, на Беларусь сыпаліся ядзерныя бомбы, як гэта павар'яцку дапушчаюць некаторыя фантасты ў сваіх футуралягічных аповесьцях. Гэткія пагляды шмат хто з нас выказвае пісьмова й вусна сваім кангрэсавым прадстаўнікам, службоўцам ураду, самому прэзыдэнту.

Існасьць дэмакратычнага працэсу ў тым, каб урад ведаў, што людзі запраўды думаюць пра ягоную палітыку — наколькі гэтая палітыка ўхваляецца выбаршчыкамі, а наколькі крытыкуецца.

І мы заклікаем Алеся Адамовіча Адама Мальдзіса ды ўсіх жыхароў Беларусі выказаць ураду Беларускае ССР свае запраўдныя пагляды й парады ў пытаньні міру-вайны ды палітыкі ўзбраеньня. Прыгэтым варта, думаецца нам, заклікаць урад Беларускае рэспублікі, каб ён таксама рабіў усё магчымае дзеля адхіленьня ад Беларусі небясьпекі ядзернага зьнішчэньня.

Некаторыя прынцыпова важныя пытаньні ў сувязі з гэтым вымагаюць безадкладнага, бадай, публічнага абмеркаваньня. Прыкладам: ці Беларусь — дзяржава зь ядзернай зброяй ці не? Калі не, як пра гэта заяўляюць ейныя прадстаўнікі на міжнародных форумах, дык чаму тады на ейнай тэрыторыі разьмешчаная нязьлічоная колькасьць ракетна-ядзерные зброі? Ці гэтае разьмяшчэньне ў інтарэсах беларускага народу? Ці ня варта было-б даць жыхаром Беларусі магчымасьць выказацца што да разьмяшчэньня ракетна-ядзернае зброі на беларускай тэрыторыі, каб выявіць запраўдныя жаданьні людзей у гэтым прынцыпова важным пытаньні, як гэта робіць у сваіх краінах Амэрыканцы, Брытанцы, Бэльгійцы ды іншыя народы.

Можа варта было-б таксама публічна прапанаваць і агітаваць, каб Беларусь была ўлучаная ў зону свабодную ад ядзерные зброі, як гэта Масква прапануе зрабіць уздоўж вузейшае паўночна-эўрапейскае паласы? Чаму-б ня ўключыць і Беларусь у гэткую зону?

Цікава было-б пачуць меркаваньні Алеся Адамовіча й Адама Мальдзіса на гэтую жыцьцёва важную тэму.

Беларусы-ж Амэрыкі запэўняюць, што яны будуць рабіць усё магчымае, каб ваенная пагроза ня вісела ані над іхнай новай Бацькаўшчынай, ані над Беларусяй.

## ПАМЁР МІТРАПАЛІТ БАПЦ АНДРЭЙ

21-травеня сёлета памёр у Злучаных Штатах Амэрыкі Мітрапаліт Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Андрэй (у сьвецкім жыцьці Аляксандар Крыт). Нябожчык быў рукапалажаны ў сан дыякана 17 чырвеня 1950 г., а ў сан сьвятара — 25 чырвеня таго-ж году ў Ангельшчыне. У 1961 г. пераехаў у Амэрыку. У 1968 г. ў Аўстраліі хіратанізаваўся на епіскапа. Па сьмерці Архіепіскапа БАПЦ Васіля ў 1970 г. пераняў кіраўніцтва епархіяй БАПЦ у Пн. Амэрыцы, а ў 1971 г., па сьмерці Галавы БАПЦ Архіепіскапа Сяргея, Уладыка Андрэй быў абраны на Другім Саборы БАПЦ у 1972 г. за Першага Гіерарха БАПЦ.

Пахаваны Нябожчык на беларускім могільніку ў Іст Брансьвіку ў штаце Нью Джэрзі. Вечная Яму памяць!

Сьмерць Мітрапаліта Андрэя засьпела Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву ў стане глыбокага нутранога канфлікту, на выйсьце зь якога спатрэбіцца ўсім ўцягнутым у яго вялікіх намаганьняў, нацыянальна-грамадзкае вырбленасьці й запраўднае веры ў Бога.

## АРХІПАСТЫРСКІ ЛІСТ

Дастойнае Сьвятарства й Дарагія Вернікі-Міране БАПЦ.

У сыботу 21 травеня 1983 г. рана адыйшоў на вечны супакой Мітрапаліт Андрэй, Першы Гіерарх БАПЦ. Дзеля гэтага няхай кажны сьвятар БАПЦ на працягу сарака дзён, да 30 чэрвеня, у часе служэньня Сьв. Літургіі залучыць акценію за новапамерлага Уладыку. А ў першую нядзелю па Сьв. Тройцы, 3 ліпеня 1983 г., кажны сьвятар БАПЦ няхай адслужыць паніхіду. Яшчэ ляпей будзе, калі гэта магчыма, заміж у нядзелю, адслужыць Сьв. Літургію й паніхіду за памерлага Мітрапаліта Андрэя ў сыботу 2 ліпеня 1983 году.

Няхай гэтая хвіліна змусіць нас перагледзець адносіны, якія існуюць у БАПЦ, ды створыць добрую волю для разьвязкі нашых праблемаў. Мы людзі, мы можам і нам трэба вырашыць сваё непаразуменьне самым паміж сабою. Няхай нашае „я" ня будзе перашкодай, каб настаў супакой у БАПЦ. Трохгадовая і яшчэ незакончаная валакня па сьвецкіх судох і вытрата грошай былі шкодныя для БАПЦ. Няхай будзе ўсім навукаю, што сьвецкія суды не даюць задавальняючага выніку. Ужо настаў час пачаць дагаворвацца. З свайго боку я гатовы й вітаю кажную спробу паразуменьня.

Няхай настане еднасьць сярод нас. Тое, што сталася, яно сталася. Мы ня можам вычыркнуць яго зь гісторыі, бо яно запісана моцна трывалым чарнілам, а гісторыя й нашае будучае пакаленьне будуць жорстка судзіць удзельнікаў яго. Але мы можам прымірыцца й выбачыць адзін аднаму ды палажыць незлагадзь БАПЦ на полку гісторыі, дзе старадаўнасьці пыл прысыпле яе ў вечнае забыцьцё.

Перш за ўсё ўсе справы царкоўнага характару павінны быць вынятыя з сьвецкіх судоў ды разгледжаныя царкоўнымі органамі для дабра БАПЦ. БАПЦ ёсьць нашай, усіх нас, незалежна ад паглядаў. Дык злучымся ўсе ў супольнай працы на карысьць і дабро БАПЦ.

Дай, Божа, разумнае развагі на дабро ўсім нам.

Ласка Госпада нашага Ісуса Хрыста, і любоў Бога Айца, і еднасьць Сьвятога Духа няхай будуць з усімі Вамі.

Хрыстос Уваскрос!

З Божае ласкі
пакорны Архіепіскап МІКАЛАЙ
Першы Гіерарх БАПЦ

31 травеня 1983 г.
Канада

## НАДЗВЫЧАЙНЫ САБОР БАПЦ

28-29-га травеня 1983 г. адбыўся ў Кліўленьдзе, штат Агаё (ЗША), Надзвычайны Сабор БАПЦ. Сабор быў скліканы Архіепіскапам БАПЦ Мікалаем на просьбу вернікаў БАПЦ. На Саборы былі прадстаўленыя восем з 12-ёх дзейных парахвіяў БАПЦ.

Прычынай скліканьня Надзвычайнага Сабору быў крызіс у жыцьці БАПЦ, які цягнецца ўжо больш за тры гады ды якога папярэдняе кіраўніцтва БАПЦ ня было ў стане разьвязаць. Крызіс гэты прынёс вернікам БАПЦ цяжкія маральныя цярпеньні й спрычыніў Царкве вялікія матар'яльныя страты, што пагражаюць Царкве далейшым заняпадам. У выніку гэтага крызісу пяць парахвіяў БАПЦ у Паўночнай Амэрыцы знаходзяцца ў сьвецкіх судох.

Архіепіскап Мікалай зьвярнуўся да Сабору БАПЦ, як найвышэйшае ўлады Царквы, пасьля таго як заходы разьвязаць праблемы Царквы нутраным спосабам, згодна із Статутам БАПЦ, не далі пазытыўных вынікаў. Мэце разьвязаньня крызісу Царквы, нармалізацыі Ейнага жыцьця, павярненьня згоды й адзінства і была прысьвечаная галоўная ўвага Надзвычайнага Сабору.

Надзвычайны Сабор БАПЦ выбраў Архіепіскапа БАПЦ Мікалая Першым Гіерархам БАПЦ на час да скліканьня звычайнага Сабору БАПЦ у 1984 годзе.

Вынікі працы Надзвычайнага Сабору адлюстраваныя ў ніжэй зьмешчаных пастановах.

## ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ

Хоць Тыдзень Паняволеных Народаў адзначаецца штагоду ў другой палавіне ліпеня, сёлета праклямацыю Тыдня Прэзыдэнт Рэйган падпісаў загадзя — 6 чырвеня. Ніжэй зьмяшчаем тэкст праклямацыі.

---

35 год таму Дэклярацыя правоў чалавека Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў абвесьціла, што „ўсе людзі народжаныя свабоднымі і роўнымі ў годнасьці і правох". Гэта яшчэ раз пацьвердзіла вечную праўду, якую Томас Джэфэрсан у 1776 г. ўпісаў у нашу ўласную Дэклярацыю Незалежнасьці. Іншы вялікі мысьліцель Эдмунд Бэрке зазначыў проста, што „справа свабоды — гэта справа Божая". Прыблізна 25 стагодзьдзяў да гэтага прарок Ісая заклікаў сьвет „злучыць прыбітых горам, каб абвесьціць свабоду паняволеным".

Вольныя людзі, калі яны хочуць заставацца вольнымі, мусяць бараніць свабоду іншых. Будучы ахоўнікамі дэмакратычнай традыцыі, што цьвёрда ўсталявалася на гэтым кантынэнце больш за два стагодзьдзі таму, Амэрыканцы глыбока адданыя прынцыпу прадстаўнічай улады ўсюды, дзе-б там ні было.

Кожнага году Злучаныя Штаты зноў пацьвярджаюць сваю адданасьць справе свабоды ў часе Тыдня Паняволеных Народаў, нагадваючы ўсім тым, што прымушаныя жыць пад панаваньнем чужаземнай ваеннай сілы й чужой ідэялёгіі, што Злучаныя Штаты падтрымоўваюць іхныя імкненьні да свабоды, незалежнасьці і нацыянальнага самавызначэньня.

Кангрэс ЗША сваёй супольнай рэзалюцыяй, прынятай 17 ліпеня 1959 г., упаўнаважыў і прасіў Прэзыдэнта абвяшчаць трэйці тыдзень ліпеня Тыднем Паняволеных Народаў.

Дзеля гэтага я, Рональд Рэйган, Прэзыдэнт Злучаных Штатаў Амэрыкі, абвяшчаю тыдзень, што пачынаецца 17 ліпеня 1983 году, Тыднем Паняволеных Народаў. Я прапаную грамадзянам Злучаных Штатаў адзначыць гэты Тыдзень адпаведнымі ўрачыстасьцямі й дзейнасьцяй ды зноў пацьвердзіць сваю адданасьць ідэалам свабоды, што злучаюць нас і натхняюць іншых.

У пасьветчаньне гэтага я паклаў свой подпіс у 6-ы дзень чырвеня лета Гасподняга 1983-га, у 207-ы год незалежнасьці Злучаных Штатаў Амэрыкі.

**Рональд Рэйган**

## КАНГРЭС БАЗА

Чарговы справаздачна-перавыбарны зьезд Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА) адбудзецца ў канцатыдні Сьвята Працы (Лэйбар Дэй) у Нью Брансьвіку, штат Нью Джэрзі, 3-4 верасьня 1983 году. Нарады зьезду пачнуцца ў сыботу 3-га верасьня а 12-й гадзіне дня.

## ХІРАТОНІЯ АЙЦА УЛ. ТАРАСЭВІЧА

8-га верасьня (чацьвер) сёлета адбудзецца ў Чыкага (ЗША), у катэдры сьв. Мікалая Украінскае Каталіцкае Царквы хіратонія Архімандрыта Уладзімера Тарасэвіча на Біскупа Беларускае Каталіцкае Царквы. Урачыстасьць пачнецца а 2-й гадзіне папаўдні. Акт хіратоніі выканаюць Уладыкі: Інакенці Латоцкі — Біскуп Украінскае Каталіцкае Царквы, Эміль Міхалік — Біскуп Карпата-Рускае Царквы ў Парме, штат Агаё, ды Біскуп Даніла Кучэра — галава дыяцэзіі ў Саліне, штат Канзас. Удзел у ўрачыстасьці возьмуць таксама беларускія сьвятары: а.а. Ал. Надсон, Р. Тамушанскі, Кастусь Маскалік ды іншыя.

## ПАСТАНОВЫ
### НАДЗВЫЧАЙНАГА САБОРУ БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ

**што адбыўся 28-30 травеня 1983 г. ў Кліўленьдзе, штат Агаё, ЗША.**

Рэзалюцыйная Камісія Надзвычайнага Сабору БАПЦ у складзе: а. Аляксандра Яноўскага, сп. сп. Васіля Русака, Янкі Раковіча й Янкі Азаркі, выслухаўшы даклад Архіепскапа БАПЦ Мікалая аб сяньняшнім палажэньні БАПЦ і дыскусіі па дакладзе, ды разгледзеўшы іншыя матар'ялы Сабору, запрапанавала Надзвычайнаму Сабору наступныя рэзалюцыі:

Надзвычайны Сабор БАПЦ сьцьвярджае, што:

1. БАПЦ перажывае ў сяньняшні дзень найглыбейшы крызіс у сваёй 35-гадовай гісторыі на эміграцыі, які прывёў Царкву да кампрамітацыі ў сям'і Праваслаўных Цэркваў, аслабленьня парахвіяў ды іх ліквідацыі, наразіў усіх вернікаў Яе на цяжкія маральныя цярпеньні, спрычыніў вялікія матар'яльныя страты ды пагражае Ёй далейшым заняпадам.
2. Парахвіі БАПЦ у ЗША й Канадзе былі пададзеныя пакойным Мітрапалітам БАПЦ, Андрэям, Сакратаром Кансысторыі БАПЦ а. прат. Васілём Кендышам і а. Янам Бруцкім 12 разоў у сьвецкія суды ў царкоўных справах на працягу апошніх трох гадоў; пяць з гэтых справаў вядуцца й сяньня ў сьвецкіх судох супроць Парахвіяў БАПЦ у Таронцье, Канада; Кліўленьдзе, Агаё; Гайленд Парку, Н. Дж.; Дораты, Н. Дж.; і Дэтройце, Міч.
3. Прычынай крызісу ў жыцьці БАПЦ было няўменьне або нежаданьне з боку Першага Гіерарха БАПЦ Мітрапаліта Андрэя й Кансысторыі БАПЦ весьці царкоўнае жыцьцё згодна з законамі, прадугледжанымі Статутам БАПЦ і канонамі Сьвятой Праваслаўнай Царквы. Статутовыя правы й інтарэсы вернікаў і духавенства БАПЦ былі поўнасьцю ігнараваныя. Ахвярамі такога падыходу да кіраваньня Царквою сталі міране, што былі адлучаныя ад Царквы ў парушэньне п. 58 БАПЦ; духоўныя, што былі адлучаныя ад Царквы й пазбаўленыя сану ў парушэньне п. 58 Статуту БАПЦ; і

(Заканчэньне на 2-й бач.)

# УЛАДЫСЛАЎ СЫРАКОМЛЯ

**(Да 160-годзьдзя нарадзінаў)**

(Канец; пачатак гл. у №310)

Тры гарады гадавалі мяне і ўрэзаліся ў памяць на ўсё жыцьцё: Магілеў — родны горад майго Бацькі, дзе я нарадзілася й зжылася з Дняпром; Нясьвіж — горад мае Маці, дзе я наведвала расейскую гімназію, але вучні якое былі ў бальшыні Беларусы ды міжсобку ўжывалі беларускую мову (маймі найбліжэйшымі сябрамі-аднадумцамі былі там Міша Вітушка й Дзіма Касмовіч); ды Вільня — горад мае незабыўнае „Альма Матэр Вільнэньзіс".

У Нясьвіжы, каб магчы пасьля залічыцца на ўнівэрсытэт, давялося мне хадзіць і ў польскую дзяржаўную гімназію, што насіла ймя Ўладыслава Сыракомлі. Зь гімназіі гэтае, у якой больш за пяцьдзесят працэнтаў вучняў былі Беларусы, запамяталася мне зьдзеклівая старэйшая настаўніца панна Родзіеўска (выкладала гісторыю).

У аднэй з прыгожых заляў гімназіі вісеў вялікі партрэт Уладыслава Сыракомлі, гэтага „Вясковага Лірніка". Я ведала пра ягонае сардэчнае стаўленьне да Беларусаў (аднойчы мне давялося спаткаць у знаёмых ягонага сына, які зваў сябе „Ліцьвіном", у традыцыі Вялікага Княства Літоўскага).

І вось калі мяне крыўдзіла панна Радзіеўская — інакш як „маскалька" яна мяне й не называла — калі на сэрцы было вельмі цяжка, у часе перапынку я бегла ў тую залю, дзе вісеў партрэт Уладыслава Сыракомлі і жалілася яму, і не саромелася горкіх сьлёзаў, што ручаём залівалі твар. Для мяне паэт жыў і па ягонай сьмерці. А як шмат ён зрабіў за сваё кароткае жыцьцё, пражыўшы ўсяго няпоўных 39 гадоў.

Каб беларускі народ успомніў сваё мінулае і тым самым усьведаміў, што ён „гаспадар тутэйшае зямлі", Уладыслаў Сыракомля і ўзяўся ўздымаць з забыцьця гісторыю „Літвы", зьвярнуўшыся да цікавай і самабытнай культуры беларускага народу.

Гісторыі Беларусі была прысьвечана ўжо самая першая праца Ул. Сыракомлі — вялікі й грунтоўны артыкул пра мінулае Нясьвіжа, апублікаваны ў „Старажытнай Польшчы" М. Балінскага за 1846 г. У арыгінале артыкулу застаўся неапублікаваны дадатак — апісаньне каштоўнасьцяў Нясьвіскага замка, якое й цяпер мае цікавасьць для дасьледнікаў нашае культуры. Гісторыі беларускіх мястэчак (Нясьвіжа, Стоўбцаў, Койданава, Міра), быту Беларусаў, іхнай вуснапаэтычнай творчасьці прысьвячае паэт і сваю кнігу „Вандроўкі па маіх былых ваколіцах"; пра вёскі й мястэчкі беларускага Прынямоньня расказвае Сыракомля ў кнізе „Нёман ад вытокаў да вусьця". У гэтай працы аўтар раскрыў гісторыю Менску, расказаў пра быт і заняткі мянчанаў, а таксама імкнуўся паказаць старажытную культуру „Крывічан". Ул. Сыракомля шмат месца адводзіць разгляду „Слова аб палку Ігаравым", якое паводля яго напісанае „на царкоўна беларускай мове, напісанае мянчанінам, з прычыны чаго, казаў Сыракомля, Менск павінен карыстацца славай гораду старажытнае паэзіі".

Шмат каштоўнага матар'ялу зь гісторыі й культуры Беларусі можна знайсьці і ў дарожных нарысах Сыракомлі. Пра гістарычнае мінулае Ашмяны, Смаргоні, Жупранаў Багушэвічавых ды пра быт жыхарства гэтых ваколіцаў расказана паэтам у дарожным дзёньніку. Ёсьць у Сыракомлі артыкулы пра Валожын, пра Нясьвіскі замак, пра ахову гістарычных помнікаў Беларусі й г.д.

А цяпер адказ на пытаньне: Чаму так сталася, што Ўладыслаў Сыракомля пісаў свае творы ўсё-ж у польскай мове?

Ды таму, што хацеў нешта сказаць адукаванаму грамадзтву, таму й змушаны быў пісаць, тэй моваю, якою гэтае грамадзтва карысталася. Ён верыў, што вызваленьне сялян можа адбыцца „зьверху", з волі самых памешчыкаў. Таму й адрысаваная ягоная літаратура пераважна шляхце, а каб ягонае слова трапіла ў цэль, трэба было гаварыць зь ёю ў ейнай мове — папольску. Разам з тым Сыракомля ўважаў, што бяз поўнага сацыяльнага разьняволеньня беларускага народу ня можа быць запраўднага разьвіцьця беларускае культуры й літаратуры. За гэтае сацыяльнае вызваленьне й змагаўся Ул. Сыракомля.

І апошняе: Сыракомля пісаў і пабеларуску, але цяжка было з друкам, свае вершы ён праектаваў выдаць разам зь вершамі В. Каратынскага асобным зборнікам, а пра выданьне такіх вершаў, як „Добрыя весьці" і „Ўжо птушкі пяюць усюды...", скіраваных супраць „цароў- паганцаў", не магло быць і гаворкі. Паводля А. Кіркора, шмат якія з тых беларускіх вершаў Сыракомлі сталіся народнымі песьнямы ды іх „сьпяваюць усюды".

А ўсё-ж у творчасьці Ўладыслава Сыракомлі знайшлі сваё адлюстраваньне ўсе бакі жыцьця Беларусі напярэдадні скасаваньня прыгоннага права. Па творах паэта мы можам вывучыць і ўмовы жыцьця беларускага народу таго часу ягоны быт, матар'яльную і духовую культуру як і фармаваньне паглядаў сына беларускага народу Кастуся Каліноўскага.

**
*

Для гэтага артыкулу былі часткава выкарыстаныя матар'ялы з працы пра Ўладыслава Сыракомлю беларускага савецкага дасьледніка Кастуся Цьвіркі.

**З. Станкевіч**

## АДКАЗ ЦІВУНУ*

Жыве Бажко, ці бошка-мошка,
Жыве такая недарэка,
У галаве тэй глузду крошка...
Ну й што ты хочаш з чалавека?

З Вадовіц зганіў „багаслова"
І нафашысьціў ён Акулу, —
Заўсёды да паслуг гатовы
Для кадэбэшніцкае скулы...

**К. Акула**

* Пад загалоўкам „На вузкай кладцы" менская газэта „Літаратура і Мастацтва" за 25.II.1983 г. зьмясьціла урывак ‚невялікага вершаванага твору" Алеся Бажка, але урывак гэты заняў аж 3/4 апошняй бачыны газэты. Акула там называецца „пазаштатным халуём амэрыканскіх мілітарыстаў", „састарэлым эмэрытам", „платным амэрыканскім вываліцелем Беларусі" ды іншымі недарэчнасьцямі.

Нямецкія акупацыйныя ўлады ў

# АДМІНІСТРАЦЫЙНА-ГАНДЛЁВЫ ІНСТЫТУТ У МАЛАДЭЧНЕ

**(1942-1944 гг.)**

Нямецкія акупацыйныя ўлады ў тэорыі дазвалялі адчыняць толькі пачатковыя беларускія школы, у вынятковых выпадках згаджаліся на адну настаўніцкую сэмінарыю ў акрузе. І ўжо зусім вынятковым выпадкам было адчыненьне сярэдняе мэдычнае школы ў Баранавічах. Але адміністрацыйна-гандлёвы інстытут? Немагчыма! Але ён існаваў, працаваў, дзякуючы нязломнай волі аднаго чалавека, ведамага беларускага пэдагога, апошняга дырэктара Віленскае Беларускае Гімназіі перад Другой сусьветнай вайной — Барыса Кіта.

Барыс Кіт разам зь Яворскім, школьным інспэктарам Маладэчанскага раёну, пастанавілі ў 1942 г. адчыніць у Маладэчне настаўніцкую сэмінарыю. Гэта ня была-б першая пэдагагічная школа ў Маладэчне. Шмат раней ужо, бо ад 1864 г. існавала ў Маладэчне настаўніцкая сэмінарыя. Яна была дзейнай аж да пачатку І-ай сусьветнай вайны й дала Беларусі шмат выдатных пэдагогаў.

За часамі міжваеннае Польшчы была тут польская гімназія, дастацца ў якую беларускай моладзі было вельмі цяжка, амаль немагчыма. У 1940 г. было тут пэдагагічнае вучылішча, якое праіснавала толькі адзін год.

Кіт і Яворскі ў выніку вялікіх стараньняў дасталі ў 1942 г. ад Сівіцы, кіраўніка школьнага аддзелу Генэральнага Камісарыяту Беларусі, дазвол на адкрыцьцё настаўніцкай сэмінарыі. З будынкамі (сэмінарыя мелася мясьціцца ў некалькіх будынках) ня было клопатаў. Тое самае было й з настаўніцкім пэрсаналам. У мясцовай маладэчанскай друкарні былі выдрукаваныя й зараз-жа распаўсюджаныя абвесткі, што вось неўзабаве адчыняецца ў Маладэчне настаўніцкая сэмінарыя й моладзь заклікалася да складаньня заяваў на прыймо.

Пад кіраўніцтвам заступніка школьнага інспэктара Магера былі праведзеныя кароткія ўступныя экзамены, набрана больш за 200 сэмінарыстых і пачалася навука. Адылі радасьць дырэктара сэмінарыі Барыса Кіта й настаўніцкага пэрсаналу была кароткая. Камісар Вялейскае акругі, даведаўшыся аб існаваньні школы, прыехаў у Маладэчна й зачыніў ня толькі сэмінарыю, але й друкарню, дзе былі выдрукаваныя згаданыя абвесткі. Апрача таго, камісар шукаў Б. Кіта, каб арыштаваць яго. Рэч у тым, што сэмінарыя была адкрытая без дазволу акруговага камісара, які ўважаў, што аднае сэмінарыі (а гэткая ўжо існавала ў Вялейцы) зусім ставала для акругі.

Барыс Кіт паехаў, ці дакладней, уцёк у Менск і зьявіўся да Сівіцы. Гэты аднак нічога ня мог ці не хацеў зрабіць і пасьля нарады із сваім заступнікам-Беларусам др. Яўхімам Скуратам паслаў Кіта як дырэктара сэмінарыі ў Паставы Глыбоцкае акругі.

На нейкі час справа адкрыцьця настаўніцкае сэмінарыі ў Маладэчне крыху прыціхла. Пазьней аднак ужо згадваны Яворскі ў паразуменьні зь Кітам пачаў рабіць стараньні ў акруговага камісара аб адкрыцьці гандлёвае школы. Пасьля напорных намаганьняў дазвол на адкрыцьцё школы быў атрыманы, і Барыс Кіт быў выкліканы з Паставаў за ейнага дырэктара.

Па доўгіх нарадах зь Яворскім і ўсебаковай кансультацыі зь іншымі больш актыўнымі Беларусамі Маладэчна было пастаноўлена не затрымоўвацца на ніжэйшай, а ўкласьці й праводзіць праграму сярэднявышэйшай гандлёвай школы — фактычна, адміністрацыйна-гандлёвага інстытуту.

Са школьнымі будынкамі ня было ніякага клопату, таксама з настаўніцкім пэрсаналам. Дзякуючы стараньням Кіта, удалося здабыць колькі вельмі добрых сілаў, як прыкладам др. Дзімітрыява — адваката, спэцыялістага гандлёвага права, Макарэвіча — дацэнта БДУ, знаўцу нямецкае мовы, Шчаснага — выпускніка Вышэйшае Гандлёвае Школы ў Варшаве, выкладчыка бухгальтэрыі, Капычова — выкладчыка матэматыкі, Янку Давідовіча — выкладчыка беларускае мовы, Вольгу Пагуду ды іншых, прозьвішчы якіх не магу ўжо прыпомніць. Было больш за 20 настаўнікаў. Паколькі Барыс Кіт быў і ў далейшым дырэктарам настаўніцкае сэмінарыі ў Паставах, куды часта выяжджаў, яго ў Інстытуце заступаў др. Дзімітрыеў.

Вучняў было больш за 300 асобаў. Яны паходзілі пераважна з Маладэчанскага й Радашкавіцкага раёнаў. Заняткі вяліся на дзьве зьмены ў паралельных клясах (курсах) ад 8-ае ўраньні да 12-ае і ад 12-ае да 4-ае папаўдні. Апрача агульнаадукацыйных прадметаў, былі й спэцыяльныя, як гандаль, тавазнаўства, бухгальтэрыя, права, асновы адміністрацыі ды іншыя.

Прыплыў кандыдатаў на 1943/44 навучальны годы быў такі вялікі, што давялося рабіць конкурсныя ўступныя экзамены: на 120 месцаў было 240 кандыдатаў.

У 1944 г. ў школьным аддзеле Генэральнага Камісарыяту Беларусі насталі зьмены. Адыйшоў Сівіца, на ягонае месца быў прызначаны Пуст. Прыймаючы школьны аддзел, Пуст спасьцярог, што паводля праграмы маладэчанская школа ня была ніжэйшай ці нават сярэдняй школай, але сярэдня-вышэйшай, дык выклікаў у Менск Б. Кіта, якому зрабіў вялікі скандал і загадаў зараз-жа зачыніць Інстытут. Кіт аднак не сьпяшаўся з зачыненьнем. Гэта было ў другой палавіне чырвеня 1944 г., калі бальшавіцкі фронт набліжаўся да Менску. Б. Кіт быў, між іншага, дэлегатам на II-гі Ўсебеларускі Кангрэс, пабыўшы на якім ён вярнуўся ў Маладэчна і ўрачыста закончыў 1943/44 навучальны год. Толькі малая колькасьць настаўнікаў ведала пра размову Барыса Кіта з Пустам.

Адміністрацыйна-Гандлёвы Інстытут у Маладэчне даў за час свайго існаваньня добрыя веды вучням, даў нацыянальнае ўзгадаваньне (існавалі пры ім розныя агульнаўзгадавальныя гурткі й гурткі мастацкае самадзейнасьці) ды забясьпечыў вучняў перад вывазам на працу ў Нямеччыну.

Вялізарная частка вучняў засталася на Беларусі. Частка-ж іх жыве ў Польшчы, частка апынулася на Захадзе. Усе яны дабразычлівым словам успамінаюць дырэктара Барыса Кіта, заслужанага беларускага пэдагога, які рызыкаваў жыцьцём, каб моладзь магла атрымаць у жудасныя акупацыйныя часы патрэбную асьвету.

Барыс Кіт зь вялікім сумам, як і шмат хто з нас, пакінуў Бацькаўшчыну. У дзень ягонага ад'езду на чыгуначную станцыю зьявілася вялікая грамада вучняў. Некаторыя прынесьлі нават на дарогу яму прадукты харчаваньня.

Барысу пашчасьціла на эміграцыі добрую частку жыцьця прысьвяціць пэдагагічнай дзейнасьці, апрача дзейнасьці навуковай.

У травені сёлета Барыс Кіт абараніў дысэртацыю на Рэгензбурскім унівэрсытэце й атрымаў навуковы тытул доктара філязофіі ў галіне гісторыі матэматыкі.

Доктару Барысу Кіту, майму земляку з Бацькаўшчыны й вялікаму прыяцелю, з гэтай нагоды складаю найлепшыя пажаданьні.

**А. Каледка**

## „БУДУЧЫНЯ МАЛАДОГА ПАКАЛЕНЬНЯ Ў БССР"

Пад гэткім загалоўкам у лятувіскім самвыдавецкім часапісе „Аушра" (Золак) (№ 33, кастрычнік 1982 г.) зьмешчаны артыкул А. Цьвірбутаса. Расейскі пераклад гэтага артыкулу выдрукаваны ў „Матэрыялах Самиздата", выдаваных радыёстанцыяй „Свабода" ў Мюнхэне (№ 22-83, 30 травеня 1983 г.).

Цьвірбутас піша, што жыхарства Беларусі русыфікуецца праз школы й палянізуецца праз касьцёл. Палянізацыя аднак ня шмат кранае моладзь, а гэта таму, што „як толькі дзеці падрастаюць, — піша Цьвірбутас, — яны пакідаюць хадзіць у касьцёлы: там іх нічога ня прыцягвае, паколькі яны чуюць незразумелую польскую мову й не разумеюць усяго, што там адбываецца". Яны стаюцца абыякавымі да рэлігіі або робяцца атэістамі.

Савецкая ўлада, кажа аўтар, задаволеная з гэткага стану рэчаў. І дзеля гэтага, відаць, савецкая ўлада дазволіла адчыніць касьцёлы ў некаторых мясцовасьцях. Лятувіскіх-жа сьвятароў у БССР ня пушчаюць і касьцёлаў зь лятувіскай моваў адчыняць не дазваляюць. Польскія ксяндзы, кажа Цьвірбутас, напорна трымаюцца свае палітыкі: трымаць „пляцувкі" й чакаць „вызваленьня", гэта значыцца аднаўленьня Рэчы Паспалітае.

Цьвірбутас піша, што ў Заходняй Беларусі „польскія ўплывы вельмі слабыя, а расейскія моцныя". Прыгэтым ён зазначае, што гаворыць „аб ускраінах Заходняе Беларусі, паколькі ня мае дакладных вестак аб тым, што адбываецца ў глыбіні Беларусі і ў ейных усходніх раёнах".

Далей Цьвірбутас піша пра засільле расейшчыны ня толькі ў школьніцтве Беларусі — у школах рэспублікі моладзь узгадоўваюць на „савецкіх ці, дакладней, расейскіх патрыётаў" — але й засільле Расейцаў сярод жыхароў: „у БССР поўна Расейцаў і абруселых Беларусаў", кажа Цьвірбутас, у выніку чаго „мясцовыя жыхары хочаш-няхочаш вымушаныя ў бальшыні выпадкаў весьці свае справы парасейску".

Пра лятувіскую моладзь на Беларусі Цьвірбутас піша, што яе засталося „зусім мала, бальшыня перасяляецца ў Лятуву або ў гарады БССР. Тыя, што накіроўваюцца ўглыбкі Беларусі, — кажа аўтар, — стаюцца Расейцамі".

**Іна Рытар-Кахаіноўская**

# ЗЬ БЕЛАРУСКІМ СЭРЦАМ, ДУМАЙ...

Трэба, трэба дзён нямала тысяч
Зь беларускім сэрцам, думай
Мерыць сьветы, каб вышэй узвысіць
Вызваленьне наша з глуму.

**Янка Купала,** Безназоўнае

14-га лістапада 1982 г. ў „Кліўлендзкім грамадзкім цэнтры „Полацак" адбылася ўрачыстая акадэмія, прысьвечаная 100-ым угодкам ад дня народзінаў клясыкаў беларускае літаратуры Янкі Купалы й Якуба Коласа. Арганізацыя акадэміі (падрыхтова праграмы, друкаваньне й рассылка запросінаў) выпала, галоўным чынам, на долю нашых найбольш дзейных „палачанаў" — інж. Кастуся Калошы й сп. Сяргея Карніловіча, некалі вучняў Беларускае Гімназіі ў Баварыі. А таму, што гімназія гэтая насіла ймя Янкі Купалы, паўстала думка, каб увечары, напярэдадні акадэміі, ушанаваць гімназію, запрасіць на сустрэчу былых гмназістых і настаўнікаў.

Ідэя сустрэчы ўсім спадабалася, але патрэбнага часу на ажыцьцяўленьне яе было ня шмат. Пэсымістыя сярод гімназыстых прарочылі няўдачу, радзілі спатканьне адкласьці на вясну ці лета. Упэўнена казалі: „Гасьцей ня будзе, адно свае кліўлендцы".

Да ўсяго гэтага дзень 13-га лістапада выдаўся хмарны, халодны. Сьцямнела раней звычайнага. Усю дарогу, пакуль мы ехалі ад свае хаты да „Полацка", у паветры мітусіліся малюткія крупкі ні то дажджу, ні то сьнегу, рабілі дарогу коўзкай, небясьпечнай. Мімаволі прыходзіла думка, што лістападаўскай слатою ня знойдзецца ахвотнікаў гнаць машыну далёка.

Якім-жа было маё зьдзіўленьне, калі першым, хто павітаў нас весела й бадзёра ў цемені „Полацкага" пляцу, як толькі мы выйшлі з аўта, быў др. Вітаўт Кіпель, госьць зь Нью Ёрку.

— Прыляцелі? — *запыталася я.*

— Не, гадзіны дзьве таму з Зораю прыехалі аўтам.

— Небясьпечна. У такую непагадзь лепей ляцець самалётам.

— Ня было як. Для выстаўкі пра Купалу й Коласа хацелася прывезьці цікавыя кніжкі, альбомы. З сваім аўтам выгадней цягаць багаж.

Аказалася, у той момант Вітаўт ішоў да свае машыны па незабраныя яшчэ з багажніка некаторыя экспанаты.

У прасторнай залі грамадзкага цэнтру мгр. Зора Кіпель увіхалася каля выстаўкі, прыгожа ўдэкараванай беларускімі тканінамі, вышыванымі ручнікамі. На сьцяне, у цэнтры над стэндам з экспанатамі, вялікія партрэты Янкі Купалы й Якуба Коласа. Для сёньняшняга вечара на выстаўцы ёсьць партрэт першага дырэктара гімназіі др. Аляксандра Орсы. Ягоная жонка, настаўніца гімназіі, сп-ня Натальля Орса, разам з дачкою Галінай, абітурыенткай 4-га выпуску гімназіі, прыехалі таксама сваім аўтам зь Нью Ёрку. Прыбылі госьці з Дэтройту, з Пітсбургу. Пэўна, найбольш сабралася тут былых гімназістых кліўлендцаў. Яны прыйшлі ня самі, а з сваімі сем'ямі.

У залі панаваў вясёлы гул. Віталіся, шчыра цешыліся нагодаю пабачыцца. І сустрэча, якой прарочылася няўдача, на якую здалёк ня шмат хто здолеў прыехаць, прынесла болей, чым мы спадзяваліся: яна кранула, ускалыхнула мілыя ўспаміны пра гімназію, адну з прыгожых балонак гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне.

Некаторыя госьці ня ведаюць беларускай мовы, але цікавяцца нашымі клясыкамі, іхнымі творамі. Зора тлумачыць ім назовы кніжок, апавядае пра жыцьцё й лёс паэтаў.

У Зоры да Я. Купалы й Я. Коласа асаблівае замілаваньне. З раньняга дзяцінства чула яна іхныя імёны, ведала пра любоў і павагу сваіх бацькоў да паэтаў. Зорына маці шмат гадоў працавала настаўніцай у дзіцячым садку, якім кіравала жонка Я. Купалы, цётка Ўладзя. Наведвала чатыры гады гэты садок і Зора. Паміж сям'ёй Я. Купалы й Зорынымі бацькамі былі добрыя сяброўскія дачыненьні. На пачатку 30-ых гадоў, калі малую Зору ня было зь кім пакінуць у хаце, яе маглі адвесьці да Купалаў. Старэнькая паэтава маці заўсёды з ахвотаю бралася дагледзець малую. Зора памятае бабуню Бянігну, памятае цётку Ўладзю. Памятае, што яны давалі ёй бавіцца з каменьчыкамі, прывезенымі зь берагоў Чорнага мора. Белыя, шэрыя, гладка адшліфаваныя круглячкі лёгка было раскладаць на розныя ўзоры, і для дзіцяці яны здаваліся мілейшымі ад цацак.

Вітаўт і Зора — абітурыенты 3-га выпуску гімназіі. Абое здабылі вышэйшую асьвету ў Бэльгіі, а таксама ў Злучаных Штатах Амэрыкі. Цяпер Зора працуе заступніцай загадчыка Славянскага аддзелу Ньюёрскай Публічнай Бібліятэкі, аднэй з багацейшых бібліятэк у сьвеце. У тэй-жа бібліятэцы Вітаўт — дзеючы дырэктар аддзелу Навукі й Тэхналёгіі. За апошнія тры дзесяцігодзьдзі гэтая бібліятэка зладзіла каля дваццаці выдатных беларусаведных выставак. Бібліятэка адгукнулася й на 100-гадовы юбілей Я. Ку-

# ЗДАБЫЛІ ВЫШЭЙШУЮ АСЬВЕТУ

### ЖОРЖ (ЮРЧЫК) АНДРУСЬШЫН



Сёлета ў чырвені Юрчык Андрусышын (старэйшы сын Паўла й Юлі Андрусышынаў) па атрыманьні два гады раней бакалаўрату з Калюмбійскага Ўнівэрсытэту ў Нью Ёрку, скончыў Школу Права ў штаце Вэрмонт ды рыхтуецца да экзамену на ліцэнзію адваката ў Нью Ёрку. Юрчык актыўна цікавіцца палітыкай, належыць да актыву маладых рэспубліканцаў. У часе свае навукі на Калюмбійскім Унівэрсытэце і ў Школе Права, калі дазваляў на гэта час, Юрчык ахвоча дапамагаў галоўнай управе БАЗА, а таксама Беларуска-Амэрыканскай Кааліцыі Супрацьдзеяньня Паклёпам у якасьці аўтара лістоў, рэдактара англамоўнае тэкстаў і тэхнічнага працаўніка.

Жорж Андрусышын й надалей цікавіцца палітычнымі, упаасобку беларускімі праблемамі, асабліва з гледзішча на амэрыканска-савецкія дачыненьні.

### ВЕРА ЗАПРУДНІК



Па сканчэньні ў 1980 г. Квінсаўскага Каледжу ў Нью Ёрку (факультэт эканомікі) Вера Запруднік (малодшая дачка Янкі й Олі Запруднікаў) у 1981 г. залічылася на Каледж імя Барука ў Нью Ёрку, які й скончыла ў травені сёлета, дастаўшы ступень магістра адміністрацыі бізнэсу. Праз усе гады здабываньня вышэйшае асьветы Вера часткава працавала, а таксама была дзейнаю ў Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі (у танцавальным гуртку „Васілёк", у рэдкалегіі часапісу „Беларуская Моладзь"). Вера піша вершы (паангельску) й спадзяецца некалі выдаць іх асобным зборнікам. Яна бярэ таксама ўдзел у рэдагаваньні англамоўнае старонкі газэты „Беларус" ды іншых матар'ялаў БАЗА.

### АЛЕСЯ КІПЕЛЬ



Скончыўшы Прынстанскі ўнівэрсытэт (факультэт гісторыі) ды факультэт права на Джорджтаўнскім Унівэрсытэце ў Вашынгтоне (з тытулам доктара права), а таксама здаўшы экзамен на адвакацкую ліцэнзію, Алеся Кіпель была прынятая ў сьнежні летась у адвакацкую калегію ў Вашынгтоне.

У Вашынгтоне Алеся ўзяла ўдзел у арганізацыйным сходзе вашынгтонскага аддзелу БАЗА ды, як старшыня аддзелу, удала выконвае місію прадстаўніка БАЗА на розных форумах у сталіцы ЗША.

Алеся Кіпель заўсёды брала актыўны ўдзел у працы беларускіх арганізацыяў: належала да танцавальнага гуртка „Васілёк", была нейкі час старшынёй ньюджэрзійскага аддзелу Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі.

Алеся Кіпель — таксама журналістка. У англамоўныя часапісы яна пачала пісаць у 1971 годзе, была сталай супрацоўніцай газэты Прынстанскага Ўнівэрсытэту, а на апошнім годзе права — адказным рэдактарам газэты Джорджтаўнскага Ўнівэрсытэту. Артыкулы Алесі Кіпель зьмяшчаліся ў часапісе „Беларуская Моладзь", газэтах „Беларус" і „Гэрытэдж Рэв'ю".

### ДЭЛАЙЛА МІЦКЕВІЧ



Прыехаўшы ў Злучаныя Штаты з Польшчы із сваёю маці й сястрою ў 1972 г., Дэлайла, якой было тады 15 гадоў, павінна была апанаваць ангельскую мову ды здабыць сярэднюю асьвету. У часе трох год наведваньня ў Нью Ёрку сярэдняе школы, Дэлайла актыўна цікавілася мастацтвам, спортам і дабраахвотнай працай у шпіталі. У 1976 г. пачала займацца ў ньюёркаўскім Гарадзкім Каледжы (факультэт мэдычнае абслугі), які й скончыла ў чырвені сёлета із ступеняй бакалаўра.

На сьветагляд Дэлайлы зрабіла ўплыў ейная бабка, што даглядала яе, малую, калі яны жылі ў Польшчы. Баба расказвала сваёй унучцы пра Беларусь, за якое была родам, ды гэтым перадала Дэлайле сваю беларускую сьведамасьць.

Дэлайла Міцкевіч належыць да танцавальнага гуртка АБАМ „Васілёк".

### АНДРЭЙ-АНТОН РАГУЛЯ



Андрэй, наймалодшы з трох сыноў др. Барыса й Людмілы Рагуляў, скончыў у травені сёлета факультэт цывільнае інжынерыі Ўнівэрсытэту гор. Ватэрлё ў правінцыі Антарыё ў Канадзе із ступеняй бакалаўра прыкладных навукаў. У 1970-ых гадох, калі ў Таронце адбываліся штогадовыя паказы народнага мастацтва ў часе фэстывальных дзён „Каравану", Андрэй Рагуля быў акардыяністам беларускае групы моладзі, што ўдала выступала зь беларускімі народнымі танцамі.

### НАТАЛЬЛЯ РУСАК



Натальля, малодшая дачка Галіны й Васіля Русакоў, скончыла сёлета Ратгерскі Ўнівэрсытэт са ступеняй бакалаўра. Натальля спэцыялізавалася ў галіне антрапалёгіі й ангельскай мовы. Амаль праз усе гады навукі яна была на ганаровым сьпісе студэнтаў Унівэрсытэту. У жніўні сёлета яна пачне вывучаць права.

Натальля была й ёсьць вельмі актыўнай сяброўкай Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі, яна — старшыня аддзелу АБАМ у Нью Джэрзі. Шмат гадоў Натальля Русак уваходзіць у склад ведамай танцавальнай групы „Васілёк".

### ЯЗЭП-СЫМОН САЖЫЧ



У красавіку сёлета 23-гадовы сын др. Язэпа Сажыча, Язэп-Сымон, скончыў Мічыганскі Ўнівэрсытэт у Ан-Арбары із ступеняй бакалаўра ў камп'ютэрных навуках і камунікацыі. Язэп Сажыч Малодшы, апрача заняткаў спортам (лёгкая атлетыка), выяўляе моцнае зацікаўленьне да тэалёгіі з намерам атрымаць дактарат у багаслоўі. Па сканчэньні ўнівэрсытэту Язэп-Сымон Сажыч адразу-ж пачаў тэалягічныя сэмінарскія заняткі ў Ан-Арбары й Мінэапалісе.

Рэдкалегія газэты „Беларус" шчыра вітае Юрчыка Андрусышына, Веру Запруднік, Алесю Кіпель, Дэлайлу Міцкевіч, Андрэя-Антона Рагулю, Натальлю Русак, Язэпа-Сымона Сажыча ды іхных бацькоў з заканчэньнем вышэйшае школы, зычыць усяго найлепшага ў далейшай навуцы й працы.

Рэдкалегія выказвае спадзяваньні, што ўсе гэтыя маладыя людзі ў іхнай прафэсійнай працы здолеюць усьцяж знаходзіць час і на грамадзка-беларускую дзейнасьць. Да гэтага іх забавязалі маральна іхныя бацькі, што далі ім магчымасьць набыць на цэлае жыцьцё вялікі скарб — вышэйшую асьвету.

## НА СЛАВЯНСКІМ ФЭСТЫВАЛІ Ў ПАРКУ

Танцавальны ансамбль Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі „Васілёк" пад кіраўніцтвам Алы Орса-Рамана выступіў у суботу 9-га ліпеня зь вялікай удачаю на славянскім фэстывалі ў Акшэн-Парку ў штаце Нью Джэрзі. Беларуская праграма на фэстывалі трывала больш за гадзіну. „Васілёк" выканаў сем танцаў.

Зь вязанкай беларускіх ды іншых мэлёдыяў выдатна выступілі ў беларускай праграме два ведамыя музыкі Валеры Новак і Генадзь Гуткін (Генадзь граў таксама да танцаў „Васільку").

## ВЫЙШЛІ З ДРУКУ ЧАСАПІСЫ

**Зважай**, № 30, чырвень 1983 (Таронта, Канада). У нумары артыкулы: В. Сянькевіча пра этнічны характар навабранцаў у савецкай арміі; артыкул да 100-годзьдзя ад сьмерці Карла Маркса; аб тысячагодзьдзі дзяржаўнасьці Беларусі й савецкім друку (паангельску), верш К. Акулы, прысьвечаны А. Качану, хроніка ды іншае.

**Царкоўны Сьветач** № 34, (Саўт Рывэр, штат Нью Джэрзі). Нумар (28 стар.) пачынаецца англамоўным артыкулам-рэцэнзіяй на кніжку амэрыканскага аўтара Дж. Лофтуса „Беларускі сакрэт". Рэцэнзія напісаная грунтоўна. Рэшта зьместу — артыкулы рэлігійнага характару ды царкоўная й сямейная хроніка.

**Беларускі Сьвет** № 13 (42), 1983 (Грэнд Рапідс, штат Мічыгэн). У нумары 62 ілюстраваныя старонкі з 4 каляровымі табліцамі беларускага народнага арнамэнту (распрацаванага сп. Ч. Будзькам). На вокладцы часапісу — партрэт камп. Міколы Равенскага; частка матар'ялу прысьвечаная М. Равенскаму, зьмешчаныя тры яговыя песьні з нотамі. Перадрукаваныя артыкулы Р. Семашкевіча „Часапіс 'Гоман'" (палітычная гісторыя другое паловіны XIX ст. і „Аб родным" Алеся Барскага ды паэма М. Машары „Сьмерць Кастуся Каліноўскага". З арыгінальных матар'ялаў зьмешчаныя ўспаміны Васіля Сініцы „Маё мястэчка" ды гістарычны нарыс Юр'я Весялкоўскага „Беларусь у Першай сусьветнай вайне". У нумары ёсьць таксама разьдзел „Новае на кніжнай паліцы" і гумар. Часапіс рассылаецца з дадаткамі „Думкі й Пагляды" (дадатак да „Беларускага Сьвету", № 3) і адбіткай „Магутны Божа" (словы й ноты, перавыданьне Міколы Прускага). Зварачацца на адрыс:

Nikolas Prusky
1086 Forest Hill Ave, S.E.
Grand Rapids, Mich. 49506
U.S.A.

**Голас Царквы** № 54, травень 1983 (Бруклін, Нью Ёрк). У канцы нумару (32 стар.) сказана, што нумар „выходзіць пасьля доўгага перапынку, спрычыненага адыходам ад рэдактарскай працы сп. Міхася Міцкевіча". Матар'ялы нумару прысьвечаныя галоўна справам закалоту ў БАПЦ. Стыль, графіка і ўзровень пісьменнасьці тыя самыя, што і ў „Беларускім Часе" Р. Гарошкі.

**Весьнік Беларускага Каталіцкага Душпастырства ў Англіі і Францыі** № 1, сакавік 1983 (Лёндан-Парыж). На чатырох бачынках бюлетэню — пра справы рэлігіі й рэлігійнае жыцьцё. Рэдагуе бюлетэнь а. Ал. Надсон, рэктар Душпастырства.

**Царкоўныя Навіны** № 5 (13), чырвень 1983 (Таронта, Канада). На 2-х бачынах нумару — пра „Надзвычайны Сабор БАПЦ" ды іншыя царкоўныя справы.

## КУПАЛЬСКАЯ ВЕЧАРЫНА АБАМ

Праведзеная Арганізацыяй Беларуска-Амэрыканскае Моладзі ў суботу 18-га чырвеня сёлета ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт Рывэры, Н. Дж. купальская вечарына прайшла вельмі ўдала: у прыемнай атмасфэры, пры добрай музыцы аркестры Івана Альхоўскага (у рэпэртуары шмат беларускіх мэлёдыяў), і з дадатным фінансавым балянсам.

---

палы й Я. Коласа: у верасьні 1982 г. арганізавала выстаўку. Бязумоўна, ініцыятыва і ўдзел З. і В. Кіпеляў у арганізацыі гэтых выставак не малыя. Яны знаходзяць час і для творчай работы ў Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва, дзе В. Кіпель сёньня — старшыня. Разам падрыхтавалі да публікацыі кнігу „Купала і Колас у працах і друку на Захадзе: бібліяграфія", якая налічвае каля 2.000 пазыцыяў.

Сам Вітаўт у ангельскай мове напісаў дасьледваньне Byelorussian Americans and Their Communities in Cleveland, якое выдаў Cleveland State University у 1982 годзе. Цяпер рыхтуе да друку чарговую публікацыю „Беларуская эміграцыя ў Амэрыцы".

З маленства Вітаўт захапляўся геалёгіяй. У Львоўскім Унівэрсытэце здабыў у гэтай галіне дактарат. Ды ўсё-ж, урэшце, перамагло беларускае. Чаму?

Ужо трохгадовым адчуў на сабе Вітаўт нягоды й пакуты нашага народу. У 1930 г. арыштавалі ягонага бацьку, абвінавацілі па справе беларускіх нацыянал-дэмакратаў, засудзілі на ссылку ў Налінск — поўнач РСФСР. У 1933 г. адважылася Вітаўтава маці ехаць з сынам на выгнаньне да мужа. Далёкае, нялёгкае падарожжа паміж Менскам і Налінскам: некалькі дзён цягніком да Казані, тады параплавам па рацэ Каме, тады возам. Дарога турботная для маладой жанчыны з малым хлапцом.

У Налінску Вітаўт хадзіў у дзіцячы садок. На вуліцы часта бачыў людзей, якіх пад вартаю ганялі ў тайгу на працу. Калі ён спытаўся, чаму людзі пад вартаю, яму растлумачылі, што гэта „вязьні". Ня раз бачыў ён і геолягаў-вязьняў з фурманкамі каменьня-пародаў. Расказы пра пошукі геалягічныя захапілі дзіцячае ўяўленьне. Аднойчы ў садку ён выпадкам здабыў малаток і вырашыў неадкладна пачаць „самастойныя геалягічныя пошукі". Адправіўся ў тайгу. На шчасьце, знайшлі яго хутка. Не пасьпеў ад садка далёка адыйсьціся.

Увосені 1935 г. зноў разлучыліся з бацькам. Маці зь Вітаўтам паехала ў горад Арол, трохі бліжэй да Беларусі. Спадзяваліся, што бацьку, у якога ў тым годзе канчаўся тэрмін ссылкі, дазволяць далучыцца да іх.

У Арле нанялі пакой у занядбаным доме калгасьніка. Праз пару месяцаў прыехаў і бацька. Цешыліся бязьмерна, ды ня доўга. На пачатку сьнежаня Вітаўт захварэў на шкарлятыну. Яго адвезьлі ў шпіталь. Із шпіталю вярнуўся дадому ў навагодні вечар, а гадзіне шостай. А гадзіне 10-ай у хату прыйшло трох агентаў ГПУ й пачалі рабіць вобыск. Ператрэсьлі ўсё ў пакоі. Нават Вітаўта загадалі перакласьці з ложка на канапу, каб спраўней агледзець ложак. Ізноў бацьку забралі, засудзілі. Аднаго дня пусьцілі сям'ю на Арол-Таварную станцыю. Бачыў Вітаўт бацькаву галаву зь „цяплушкі", якая адыходзіла на поўнач. Разьвітацца бліжэй не дазволілі.

З Арла да Менску шмат бліжэй, чым з поўначы РСФСР. Да таго — у Менску, на Камароўцы, жыў дзед, меў нават уласную хату. Маці зь Вітаўтам пару разоў езьдзіла наведаць яго. Але гэта наклікала новую бяду: у дзеда адабралі хату. Падстава? „Твой зяць — вораг народу".

Старога, прыгнечанага несправядлівасьцю, разьбіў параліч. Давялося дачцы і ўнуку забраць хворага да сябе, у Арол, даглядаць яго, карміць, жыць з паралізаваным у адным пакоі, на 9-цёх квадратных мэтрах.

Школу Вітаўт любіў. Улетку маці аддавала яго ў піянерскі лягер. Ён любіў паходы, прыроду, гульні. Належаў да розных спартовых і школьных гурткоў. Але паза гэтым рэчаіснасьць была шэрая. Ніколі ня было ўдосталь хлеба, цукру, масла, газы ды іншых патрэбных для штадзённага жыцьця рэчаў. Па ўсё трэба было бегчы ў чаргу, усё „што даюць" купляць, бо спатрэбіцца.

У школе, у піянерскім лягеры дзеці ўвесь час чулі, што трэба быць „бдительным", бо „враги народа и шпионы" ўзрываюць масты, чыгуначныя рэйкі, пускаюць пад адхон цягнікі. Аднойчы гаспадыня дому, дзе кватэравалі Кіпелі, сказала: „Не думаю, Витька, что твой папа вернется". А маці ўвесь час хвалявалася, што і яе могуць арыштаваць. Яна прасіла гаспадыню, каб тады дапілнавала Вітаўта.

„Ворагі народу? Шпіёны? — пачаў задумвацца Вітаўт, пачаў разважаць: — Ці запраўды яно так?" У суседзтве жыло шмат дзяцей бяз бацькі ці бяз маткі, а то й зусім без бацькоў. Нямала між іх было й Беларусаў. З адным, Пецем Кірылікам, Вітаўт моцна пасябраваў. Кірылікаў бацька паходзіў з Баранавічаў і ў 33-ім годзе „недзе прапаў". Так тлумачыла Пецева маці й сам Пеця. „Польскі шпіён?" І Вітаўтава настаўніца ў школе, таксама беларуска бяз мужа, з малым дзіцем, казала: „Муж недзе прапаў". Але Вітаўт у тую пару ўжо з уласнага дазнаньня добра ведаў, што азначае „недзе прапаў".

Сярод дзяцей і юнакоў, якія вучыліся ў Беларускай Гімназіі імя Янкі Купалы, Вітаўт ня быў выключэньнем. Большасьць гімназістаў мела ня менш турботнае дзяцінства. Апрача таго, усе яны апынуліся ў віры жорсткіх падзеяў 2-ой сусьветнай вайны: перажылі бамбёжкі, бачылі палаючыя гарады, вёскі, пазналі страх, сьмерць, якая тады неадступна стаяла над кожным. Жорсткасьць, гвалт вайны не забыліся, пакінулі свой тужлівы сьлед ува ўспамінах гадунцоў гімназіі.

**(Працяг у наступным нумары)**

## СЬВ. ПАМ. ПАВАЛ НАВАРА

**(Успамін)**

У аўторак 24 травеня 1983 г., па доўгай і цяжкай хваробе з апэрацыямі, памёр у лёнданскай клініцы на 56-ым годзе жыцьця Павал Навара. Нарадзіўся Павал 17 верасьня 1927 г. ў вёсцы Асташына, Любчанскага раёну на Навагрудчыне. Пачатковую школу наведваў у роднай вёсцы, а ў часе апошняй вайны вучыўся ў Беларускай Настаўніцкай Сэмінарыі ў Навагрудку.

Хачу я ўспомніць і прадставіць, хоць у скароце, постаць сьв. пам. Паўла Навары так, як бачыў яго ў ваенным і паваенным часе. Адначасна не хачу памінуць некаторыя абставіны-здарэньні, якія даводзілася групе Беларусаў разам зь Нябожчыкам перажываць і перамагаць.

Спаткаўся я першы раз з Паўлам Наварам у палове чэрвеня 1944 году ў Ахвіцэрскай Школе БКА ў Менску. У канцы чэрвеня таго-ж году дарога павяла нас зь Менску на Захад праз Літву, Прусію, Польшчу й Нямеччыну ў францускі ваенны гарадок Вальдаон, каля швайцарскай граніцы, у які прыйшлі мы 29 жніўня 1944 году. Пераначаваўшы адну толькі ноч, адгэтуль пачалося нашае другое адступленьне ў кірунку Нямеччыны. Уначы з 31 жніўня на 1 верасьня палавіна роты былых кадэтаў Менскай Ахвіцэрскай Школы БКА здэзэртавала арганізована ў ваколіцы Клерваль. Другая палавіна роты пайшла зь Немцамі.

Нашая група дэзэртыраў, у якой быў і Павал Навара, навязала кантакт з францускімі партызанамі — maquis — і зь імі супрацоўнічала. Партызанскае жыцьцё ня было для нас доўгае, але затое калярытнае і вельмі небясьпечнае, паколькі апынуліся мы ў прыфрантавой паласе, ня знаалі мясцовасьці й францускай мовы. Пару сяброў нашае групы загінула. Павал Навара заканчваў у той час свае 16 гадоў, але аднойчы пайшоў ахвотнікам на абарону францускай вёскі.

Раптам фронт падыйшоў пад нашае лясное сховішча і так стаяў тыдзень часу. Нашыя кантакты з францускімі партызанамі былі амаль ніякія і давялося нам зазнаць холаду й голаду. 17-га верасьня Павал трывожна перажываў дзень сваіх нарадзінаў — 17 год — і ціха сядзеў зь сябрамі пры самай дарозе сярод дрыгвы ды слухаў, як недалёка ходзяць і гутараць Немцы. Тае ночы Немцы адступілі і раніцай мы перайшлі да Амэрыканцаў.

У Амэрыканцаў адкрылася для нас новая эра: палон, лягер, работа на могілках, зноў лягеры ды нарэшце выезд у Італію позьняй восеньню 1944 году.

Павал з групай Беларусаў выехаў у Італію раней, але ў палове студзеня 1945 г. мы зноў спаткаліся ў роце г. зв. „цэнзусоўцаў" (матурыстаў) у Сан Базыльё (паўдзённая Італія), дзе знаходзіўся адзін з цэнтраў перашкаленьня 7-ай дывізіі 2-га Польскага Корпусу.

Не зважаючы на тое, што Палякі прыдзялілі нас да „цэнзусоўцаў", Беларусаў не паслалі на „падхаранжоўку" таму, што яны ня мелі польскае гімназіі, а Беларускае Настаўніцкае Сэмінарыі Палякі не прызнавалі. Затое, 28-га студзеня паслалі нас, Беларусаў, на падахвіцэрскую школу ў гэтым самым лягеры, і я з Паўлам трапіў у 1-шы зьвяз. Ад Паўла даведаўся я, што Палякі не хацелі прыняць яго ў армію, паколькі быў ён замалады, каб быць жаўнерам. Але П. Навара быў ужо ня толькі жаўнерам, але й партызанам ды прайшоў амэрыканскі палон. І таму зусім зразумела, чаму Навара не захацеў ісьці ў юнакі, і яго пакінулі ў арміі.

На падахвіцэрскай школе ў Сан Базыльё знайшлася паважная група Беларусаў, зь якімі Навара разам пакідаў Менск. Адну дружыну ў школе складалі Беларусы, за выняткам аднаго Ўкраінца й аднаго Паляка — дружыновага. Нажаль, некаторым жаўнерам не давялося закончыць падахвіцэрскую школу. Вайна ішла і трэба было запоўніць парадзелыя рады на фроньце. Так што загадам частка жаўнераў падахвіцэрскай школы, а сярод яе ўсе Беларусы, зьявіліся 24-га лютага ў 23-ці батальлён і адтуль мелі ад'ехаць на фронт. Перад самым ад'ездам аднак выклікалі пару чалавек назад на падахвіцэрскую школу, у тым ліку й мяне. Я вярнуўся ў школу, а рэшта маіх сяброў-Беларусаў разам зь 17-гадовым П. Наварам паехалі на фронт. Каля фронту ў Беларусаў папыталіся, у які аддзел ці часьць яны хочуць ісьці, на што яны адказалі: „Там, дзе больш Беларусаў, туды мы й пойдзем". І прыдзялілі іх да 17-га батальлёну 5-ай Крэсовай дывізіі „Зуброў".

Скончыў я падахвіцэрскую школу 20 красавіка 1945 г. і за пару дзён паехаў на фронт. Паміж Анконай і Балёніяй, на аднэй станцыі, дайшла да нас добрая вестка — канец вайны, Немцы скапітулявалі ў Італіі. Аднак прывезьлі нас 27-га красавіка пад Імолю, недалёка ад Балёніі, а наступнага дня прыдзялілі мяне да 17-га батальлёну. Неспадзявана спаткаў я тут Паўла Навару і іншых Беларусаў з падахвіцэрскай школы ў Сан Базыльё. Яны бралі ўдзел у вялікім наступе пад ракой Сэньё. Усе яны вярнуліся з фронту шчасьліва, адзін ці двух былі лёгка раненыя.

Будучы ў адным батальлёне, мы, Беларусы, не заўсёды мелі нагоду спатыкацца разам. Батальлён раськіданы быў па цэлай акрузе, а пасьля пачаліся частыя пераезды з аднаго месца на другое. Шмат хто з нас праходзіў розныя вайсковыя курсы і часта далёка ад свайго батальлёну. 6-га верасьня выслалі мяне аж пад Альпы, у Санта Люччыю на курс фізычнага выхаваньня. Засталося толькі два тыдні да заканчэньня курсу, як 1-га лістапада паклікалі мяне назад у батальлён. Адчынялася польская гімназія пры 5-ай дывізіі, а ў свой час я зложыў туды заяву аб прыняцьці. Прыехаў я ў свой батальлён, які стаяў у Мэстры, недалёка ад Вэнэцыі. Калі раніцай 3-га лістапада прыйшоў я на зборны пункт, то застаў тут Паўла Навару і некаторых Палякоў з батальлёну, якія ехалі ў Мадэну, дзе мела быць гімназія. Зноў спаткаўся я з Паўлам, і гэтым разам на даўжэй.

Адкрыцьцё гімназіі адбылося 6 лістапада 1945 г. ў прысутнасьці генэрала 5-ай Крэсовай дывізіі Н. Суліка. Тут спаткалі мы некаторых сваіх старых сяброў-Беларусаў, зь якімі разам пакідалі Менск, але было пару й новых Беларусаў, нам незнаёмых, якія нацыянальна былі мала сьведамыя.

Паўла й мяне прыдзялілі ў трэцюю клясу гімназіі, і мы селі разам за адным сталом. Павал быў малодшы за мяне амаль на чатыры гады, а былі ў клясе й шмат старэйшыя за мяне. Але на самых ужо пачатках Павал Навара паказаў сябе надзвычай здольным хлапцом. Не зважаючы на тое, што быў ён адным з наймалодшых у клясе, аднак сваймі здольнасьцямі перавышаў усіх. Ня быў ён, як кажуць, зубрыла, але навука ішла яму лёгка.

Апрача заняткаў у гімназіі, нашая невялікая група Беларусаў часта спатыкалася, каб пагутарыць аб сваіх беларускіх справах. Атрымоўвалі мы „Беларускія Навіны", якія выходзілі ў Парыжы, і пашыралі іх сярод Беларусаў, зазвычай, калі ехалі ў царкву на нейкае сьвята.

У гімназіі выкладаў гісторыю праф. Вінцук Грышкевіч — стары дзеяч, які прыехаў у Італію з польскай арміяй праз Сібір, Пэрсію й Палестыну. Мы хутка пазнаёміліся зь ім праз Паўла Асіповіча, і на нашых сходках, якія часам адбываліся ў аднэй італьянскай хаце, або на ўскраіне гораду, было пастаноўлена: вышукваць Беларусаў, праводзіць зь імі ўсьведамляльныя гутаркі й трымаць кантакт.

Першы год навукі закончыўся ў Мадэне 12 травеня 1946 году. З гэтае нагоды адбылося агульнае прыняцьцё і за ганаровы стол былі запрошаныя найлепшыя гімназісты. Там заняў сваё заслужанае месца Павал Навара. Сярод запрошаных гасьцей — палкоўнікаў, маёраў і г.д. — Павал не сядзеў ціха, але гутарыў са штабнымі ахвіцэрамі на беларускія тэмы.

Атрымаўшы пасьветчаньні аб сканчэньні трэцяе клясы гімназіі, мы вярнуліся ў свой батальлён на адпачынак і вольны час праводзілі найбольш у Вэнэцыі. У гэтым старым горадзе можна было пабачыць шмат чаго гістарычнага, паляжаць на пляжы ў Лідо ды паплаваць у цёплай вадзе Адрыятыкі.

11-га чэрвеня вярнуліся мы зноў у гімназію, каб працягваць навуку. Але 14-га жніўня пакінулі Мадэну, заладаваліся на карабель у Нэапалі, і ў канцы жніўня 1946 г. гімназія прыплыла ў Глязгаў (Шатляндыя). Пасьля частых пераездаў, у палове лістапада гімназія затрымалася ў Чысэльдоне, каля Сьвіндону (Англія) і тут пачаліся нармальныя заняткі. Але хадзілі чуткі, і ўсім было ведама, што Польская Армія будзе хутка разьвязаная, і нам, маладым беларускім студэнтам-патрыётам, пакуль яшчэ былі разам, трэба было нешта рабіць.



**Павал Навара, справа, зь Юркам Весялкоўскім у Італіі ў часе вайны.**

У міжчасе была яшчэ й другая польская гімназія пры 3-яй Карпацкай дывізіі, і там таксама існаваў беларускі гурток, які трымаў з намі сувязь праз праф. Грышкевіча. Цяпер справа насьпела нагэтулькі, што другі малады юнак, Віктар Сянькевіч зь гімназіі 3-яй дывізіі, якому ў той час было 20 год, зьявіўся з праф. В. Грышкевічам у Галоўны Штаб Польскай Арміі да ген. Капаньскага з просьбай, каб даў дазвол Беларусам-жаўнерам польскае арміі належаць да свае беларускае арганізацыі. Дазвол такі быў даны, яго зачытвалі ў рапарце па ўсіх польскіх аддзелах. Зьмясьціў яго нават „Дзеньнік Польскі" — праўда, такімі малымі літарамі і ў такім месцы, што мала хто яго заўважыў. Але мы, Беларусы польскае арміі, мелі цяпер легальнае права належаць да свае беларускае арганізацыі.

Калі я не памыляюся, то грунт для беларускай арганізацыі быў ужо прыгатованы. У тым часе жыла ідэя „Міжмор'я", дзе Палякі мелі граць першую йскрыпку. Ім тады залежала, каб паказаць сябе прыяцелямі ўсіх народаў, якія жылі паміж Балтыцкім а Чорным морамі, і таму Галоўны Штаб даў дазвол на стварэньне беларускай арганізацыі.

Засталося толькі аформіць гэтую беларускую арганізацыю. Будучы ў кантакце з другой групай Беларусаў-гімназістаў, пастаноўлена было склікаць на 18 студзеня 1947 г. агульны зьезд Беларусаў Вялікабрытаніі ў Лёндане. На зьезьдзе відны былі толькі вайсковыя мундзіры за выняткам аднаго цывільнага — Міколы Буляка. На старшыню першага зьезду выбралі К. Нора. Зьезд адбыўся фармальна, але ў прысьпешаным ходзе ў сувязі з абмежаваным часам.

**(Заканчэньне ў наступным нумары)**

**Ю. Весялкоўскі**

---

## ПАДЗЯКА

Гэтым шляхам хачу выказаць маю шчырую падзяку ўсім тым, што за жыцьця майго сьв. пам. мужа Аўгена памяталі аб ім падчас яго хваробы — пісалі да яго або наведвалі яго — а таксама ўсім тым, хто ў часе паховін ушанаваў яго памяць, прыслаўшы спачуваньні, кветкі ці ахвяры ў яго памяць на дабрадзейныя мэты. Шчыра дзякую ўсім, што прыйшлі ці прыехалі, каб разам памаліцца ды правесьці сьв. пам. Аўгена на вечны супачынак.

Сомэрсэт, Н. Дж.

**Надзя Кудасава**

---

## У ПАМЯЦЬ П. НАВАРЫ

Спадарыня Эльлен Навара зь дзецьмі Міколам і Альжбетаю й Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі з сумам паведамляюць, што ў аўторак 24 траўня 1983 г. памёр дарагі муж, бацька й сябра ПАВАЛ НАВАРА, ды просяць маліцца за супакой ягонай душы.

Адпявальная служба адбылася ў чацьвер 2 чырвеня ў капліцы Сьв. Пятра і Паўла ў Марыян Гаўзе, Гольдэн Авэню, у Лёндане, пасьля чаго адбылося пахаваньне на могілках сьв. Панкрацыя ў Фінчлей.

На жаданьне памерлага, замест кветак просіцца складаць ахвяры на Беларускую Бібліятэку й Музэй імя Францішка Скарыны ў Лёндане.

---

## ВЕЧНАЙ ПАМЯЦІ ПАЎЛА НАВАРЫ

Заміж вянка на магілу майго вучня зь Італіі й Ангельшчыны, супрацоўніка ў Згуртаваньні Беларусаў у Вялікай Брытаніі, беларускага патрыёта й нацыянальна-грамадзкага дзеяча, сябры Рады БНР, што адыйшоў ад нас у вечнасьць 24 травеня 1983 г., з выражэньнем глыбокага суму й найшчырэйшымі спачуваньнямі сям'і Нябожчыка, складаюць дар у суме ста даляраў на Беларускую Бібліятэку й Музэй імя Францішка Скарыны ў Лёндане.

**Вінцэнт Жук-Грышкевіч з жонкай Раісай**

---

## СЬВ. ПАМ. МАРЫЯ СТАНКЕВІЧ

5-га травеня 1983 г. памерла на 83-ім годзе жыцьця Марыя Станкевіч, жонка сьв. пам. Янкі Станкевіча.



Нарадзілася Нябожчыца 20 кастрычніка 1900 г. у Чэхаславаччыне. Вышэйшую асьвету пачала здабываць на Карлавым Унівэрсытэце ў Празе, а пасьля была пасланая, у парадку культурнага абмену, у Амэрыку на Васарскі Каледж, дзе вывучала псыхалёгію й эканоміку. Там далучылася да Мэтадысцкае Царквы.

Вярнуўшыся ў Прагу, працягвала навуку ды здабыла ступень магістра пэдагогікі й дыплём настаўніка. Выкладала ў ваднэй зь сярэдніх школаў Прагі. У 1923 г. пазнаёмілася із студэнтам Янкам Станкевічам на зьезьдзе славянскіх студэнтаў у Празе, дзе Я. Станкевіч вучыўся тады. У 1926 г. яны пажаніліся й паехалі жыць у Вільню. Марыя Станкевіч працягвала там пэдагагічную дзейнасьць і дапамагала ў працы мужу, унівэрсытэцкаму выкладчыку й беларускаму паслу ў польскім Сойме.

У Вільні ў Янкі й Марыі Станкевічаў нарадзіліся тры сыны: Юрка, Вячаслаў і Багуслаў. Сям'я Станкевічаў была актыўнаю ў рэлігійным жыцьці мэтадыстаў у Вільні.

У часе Другое сусьветнае вайны Нябожчыцы даводзілася часта самой гадаваць дзяцей, бо шмат разоў муж мусіў хавацца ад перасьледу бальшавікоў. Станкевічы нарэшце перабраліся ў Прагу.

Па вайне Марыя Станкевіч з мужам і дзецьмі жыла ў лягерох для Перамешчаных Асобаў (ДП), а ў 1949 г. зь сям'ёю эміґравала ў Амэрыку й жыла ў мястэчку Готарне ў штаце Нью Джэрзі, недалёка ад гор. Нью Ёрку.

Па сканчэньні курсу на Калюмбійскім Ўнівэрсытэце працавала ў мэдычнай бібліятэцы, была таксама дзейнаю ў Мэтадысцкай Царкве ды таксама ў Беларуска-Амэрыканскім Жаноцкім Згуртаваньні. На працягу колькіх гадоў была старшынёй жаноцкае арганізацыі ў Нью Ёрку.

Сьв. пам. Марыя Станкевіч была энэргічнай і жыцьцярадаснай асобай. У 65-гадовым веку, прыкладам, яна навучылася езьдзіць аўтамабілем. Была актыўнай у скаўцкай арганізацыі, у Таварыстве выпускнікоў Васарскага Каледжу.

Па сьмерці мужа працавала над ягонымі рукапісамі й перакладам у ангельскую мову „Нарысаў зь беларускае гісторыі".

Вечная ёй памяць!

---

## СЬВ. ПАМ. АЎГЕН КУДАСАЎ

7-га красавіка сёлета памёр па доўгай, амаль 10-гадовай хваробе Аўген Кудасаў, які жыў у Сомэрсэце ў штаце Нью Джэрзі. Сьв. пам. Аўген Кудасаў нарадзіўся ў Вільні 5 верасьня 1922 году. Ён паходзіў з абодвых бакоў са старых ведамых сьвятарскіх сем'яў.



Аўген скончыў настаўніцкую сэмінарыю ў Нясьвіжы й працаваў настаўнікам. Па вайне студыяваў лясьніцтва ў Мюнхэне, быў адным з заснавальнікаў Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня ў Мюнхэне і адным з пачынальнікаў і супрацоўнікаў беларускай студэнцкай прэсы на эміграцыі, адным зь ініцыятараў і выдаўцоў у канцы 1945 г. першага нумару „Студэнцкіх Вестак".

Пераехаўшы ў Злучаныя Штаты, Аўген сьпярша жыў у Саўт Рывэры, дзе пазнаёміўся з Надзяй Рагалевіч, зь якою ажаніўся ў 1952 г. Пазьней яны пасяліліся ў Сомэрсэце. Як і раней, у Амэрыцы Аўген быў актыўным сябрам Беларускага Студэнцкага Таварыства ды выдавецтва студэнцкага часапісу „Віці".

Не зважаючы на цяжкія пачаткі ў новай краіне, Аўген працягваў здабываньне асьветы ў галіне інжынерыі на Ратгерскім Унівэрсытэце і пасьля працаваў інжынерам у кампаніі Вальдрон-Рос.

Аўген быў вельмі дзейным у царкоўным жыцьці парахвіі Сьвятой Эўфрасіньні ў Саўт Рывэры. Ён быў адным з адданых будаўнікоў царквы і сябрам парахвіяльнае рады.

Аўген вельмі любіў падарожнічаць і ў сваім жыцьці бачыў шмат цікавых мясьцін Эўропы й Амэрыкі ды умеў іх добра апісаць у прэсе.

У прыватным жыцьці, любячы карэктнасьць формы, ён адначасна быў чалавекам вельмі таварыскім. У сваім гасьцінным доме ён любіў жарт, успаміны й песьню.

Нябожчык пакінуў жонку Надзю, якая дзяліла зь ім часы працы й радасьці ды аддана стаяла пры ім у часе хваробы. Усе ягоныя сябры, якіх ён меў шмат, моцна адчулі ягоную страту, і ўсе яны прыбылі з розных мясьцінаў Усходняга Пабярэжжа Амэрыкі аддаць яму апошнюю пашану. Пахаваны сьв. пам. Аўген Кудасаў на беларускім магільніку сьв. Эўфрасіньні ў Саўт Рывэры. Няхай яму будзе лёгкай амэрыканская зямля.

**Сябры**

---

Выдавецтва й Рэдкалегія газэты „Беларус" выказваюць шчырае спачуваньне сыном Нябожчыцы Юрку, Вячку й Богушу ды іхным сем'ям.

 



## МАСТАЦТВА АНАТОЛЯ ЧАЙКОЎСКАГА
### „Псыханаўтычнае малярства"

Анатоль Чайкоўскі (сын Дзьмітра й Лены Чайкоўскіх), якому цяпер 36 гадоў, дастаў у спадчыну ад бацькоў і разьвіў талент мастака ды стаўся шырака ведамы ня толькі ў Заходняй Нямеччыне, дзе ён жыве, але й замежамі (працы Анатоля выстаўляліся ў Францыі, у ЗША — на 3-м Беларускім Фэстывалі ў Ньюджэрзійскім Цэнтры Мастацтваў).

Пра творчы стыль Анатоля Чайкоўскага заходня-нямецкая газэта Bayreuther Kurier (20.IV.1983), у вялікім ілюстраваным артыкуле з нагоды выстаўкі абразоў Анатоля Чайкоўскага піша:

„Ягонае 'псыханаўтычнае малярства' палягае на дасьледаваньні падсьведамага сьвету. Навігацыйнымі прыладамі мастаку тут служаць міты, рэлігія, альхэмія або псыхалёгія. Гэты, распрацаваны ім, 'псыханаўтычны стыль' выплывае зь інтэнсыўнага азнаямленьня зь сюррэалістычнымі мастакамі-фантастамі, як Макс Эрнст і Сальвадор Далі, ды літаратарамі Фройдам, Юнгам і Арто. Гэта — самадасьледаваньне (Insicheintauchen — заглыбленьне ў сябе самога), пры якім спалучаюцца пачуцьці й разуменьне".

## КНІГА-АПОВЕСЬЦЬ ПРА М. БАГДАНОВІЧА

Выйшла з друку аповесьць Уладзімера Глыбіннага пра Максіма Багдановіча — „Пад лебядзіным знакам" (урывак з аповесьці пад. заг. „Максімава сяброўка", быў зьмешчаны ў газ. „Беларус" № 294-5 і 296).

У аповесьці, на аснове Багдановічавае творчасьці й біяграфічных фактаў аўтар малюе жыцьцёвы й творчы шлях ды грамадзкае наваколье клясыка беларускае літаратуры. У канцы кнігі (усіх 96 бач.) дадзены сьпіс навуковых працаў і літаратурных твораў Уладзімера Сядуры-Глыбіннага (13 кнігаў).

Незадоўга да выхаду з друку аповесьці пра Багдановіча (друкаваў Мікола Прускі) аўтар кнігі, на вялікі жаль, цяжка захварэў — у выніку ўдару ён спаралізаваны, страціў часткава здольнасьць руху й мовы, але захаваў сьведамасьць.

Пашырыць кніжку пра Багдановіча ўзялося выдавецтва газэты „Беларус". З кожнага прададзенага экзэмпляру сп-ня Сядура ахвяравала 30% на газэту. Цана кнігі — 9 даляраў. Спадзяёмся, што прыхільнікі газэты ахвоча набудуць яе.

## КНІГА А. КЛЁНАВА

Пісьменьнік Андрэй Клёнаў, з артыкуламі якога наш чытач сустракаўся ўжо на старонках „Беларуса", выдаў сёлета парасейску кнігу „Картинки Нью-Йорка".

Кніга складаецца з кароткіх нарысаў-замалёвак Нью Ёрку — сьвежых уражаньняў ад гораду ў чалавека, што нарадзіўся на Беларусі, а пасьля даўгі час жыў у Маскве, адкуль у сярэдзіне 1970-х гадоў прыехаў з ЗША. Напісаная апавядальным стылем, кніга Клёнава чытаецца лёгка й дае добрае ўражаньне пра адзін з найкалярытнейшых гарадоў сьвету. Цана — 12 даляраў. Выпісаць можна беспасярэдня ад аўтара:

Mr. A. Klenov
34-15 Neptune Ave.,
Apt. 2106
Brooklyn, N.Y. 11224
U.S.A.

## ВЫДАНЬНІ ЗЬ БЕЛАРУСІ

Двутомавы „Руска-беларускі слоўнік" (больш за 108 тыс. словаў), першыя два выпускі „Гістарычнага слоўніка беларускай мовы", альбом „Беларускае народнае адзеньне", ангельскі пераклад нарысу Ул. Караткевіча „Зямля пад белымі крыламі", кніга перакладаў вершаў Купалы ў ангельскую мову (укладальнік Алег Лойка) ды некаторыя іншыя выданьні могуць быць набытыя з кнігарні Віктара Камкіна:

Victor Kamkin Inc.
12224 Parklawn Dr.
Rockville, Md. 20852
(301) 881-5973

**Жыхароў у Пінску й Берасьці** летась стала — у першым 100 тыс., а ў другім — 200 тыс.

## НОВАЯ КНІГА ЗЬ ГІСТОРЫІ КІРЫЛІЧНАГА ДРУКУ

Szczepan K. Zimmer. **The Beginning of Cyrillic Printing. Cracow 1491.** New York, 1983. 292 p. Ill. $28.00.

У Нью Ёрку 6-га й 7-га травеня адбылася 41-ая гадавая канфарэнцыя Польскага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Амэрыцы. Адна з пленарных сэсіяў канфэрэнцыі мела беспасярэдняе дачыненьне й да Беларусі. Сэсія была прысьвечаная культурнаму жыцьцю Кракава ў 15-ым стагодзьдзі. Асноўная ўвага на сэсіі была прысьвечаная аналізу толькі што выданае паангельску кнігі др. Шчэпана Зымэра „Пачаткі кірылічнага друкаваньня ў Кракаве у 1491 г.".

У кнізе грунтоўна апісваецца дзейнасьць і роля Швайпольта Фіёля ў запачаткаваньні ды пашырэньні кірылічнага друку ў Усходняй Эўропе, дзе дваццаць год пазьней галоўную ролю адыграў беларускі друкар і асьветнік доктар Францішак Скарына. Роля Ф. Скарыны ды ягонае значаньне, як перакладніка Біблії, як друкара, як навукоўца шырокага дыяпазону, дэтальна разгледжаная ў кнізе др. Зымэра. На канфэрэнцыі гэта падкрэсьлялі шмат якія ўдзельнікі дыскусіі. Заступнік Старшыні Польскага Інстытуту, праф. Людвік Кжыжаноўскі, адзін з рэдактароў названае кнігі (ён-жа — галоўны рэдактар англамоўнага „Польскага Агляду"), гаворачы пра кнігу др. Зымэра, выказаў падзяку др. Вітаўту Тумашу за супрацоўніцтва з др. Зымэрам, за каштоўныя заўвагі, дадаткі ды парады падчас творчага працэсу, а таксама дапамогу матар'яламі з калекцыяў Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва.

Таксама й аўтар кнігі Шчэпан Зымэр, дзелячыся ўспамінамі аб ходзе працы над кнігай ды зьбіраньні матар'ялаў у Польшчы, Заходняй Эўропе й Злучаных Штатах, падкрэсьліў асаблівую ролю др. Вітаўта Тумаша ў працы над кнігай як і іншых беларускіх супрацоўнікаў, названых у прадмове да кнігі: супрацоўніцы Славянскага Аддзелу Ньюёркаўскае Публічнае Бібліятэкі сп-ні Зоры Кіпель ды айца Аляксандра Надсона, дырэктара Беларускае Бібліятэкі імя Францішка Скарыны ў Лёндане. „Наагул, — казаў у сваёй прамове др. Зымэр, — праца над кнігай паказала мне, колькі было створана беларускім народам для агульнае славянскае культуры ў пэрыядзе Вялікага Княства Літоўскага ды як маюць права гэтым ганарыцца Беларусы — асноўная нацыя Вялікага Княства Літоўскага".

Др. Вітаўт Кіпель ад Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва прывітаў канфэрэнцыю ды ў аналізе кнігі др. Зымэра адцеміў два галоўныя мамэнты: выхад гэтае кніжкі — найперш, важнае дасягненьне польскае культуры, бо праца гэтая становіць апошняе слова навукі пра дзейнасьць Фіёля ды ягонае значаньне ў разьвіцьці культурнага працэсу Польшчы. Другое, адзначыў В. Кіпель, кніжка гэтая — важная падзея ў дасьледваньні і беларускае культурна-гістарычнае спадчыны, бо ў кнізе грунтоўна разгледжаная дзейнасьць Францішка Скарыны ды ягонае значаньне ў культурным разьвіцьці Ўсходняе Эўропы. Дык выхад кніжкі др. Зымэра — значная падзея і для Беларусаў.

Старшыня БІНіМ др. В. Кіпель зазначыў таксама, што кніжка др. Шчэпана Зымэра пра Фіёля дэмаскуе й разьбівае савецка-расейскія спробы хвальшаваньня гістарычнага разьвіцьця Ўсходняе Эўропе ды ставіць на месца прэтэнсіі, высоўваныя апошнімі часамі маскоўскім дасьледнікам Няміроўскім, аб маскоўскай, быццам-бы, сьціраванасьці дзейнасьці Швайпольта Фіёля.

**Т.Б.**

## БЕЛАРУСКАЯ АНТАЛЁГІЯ ПАНЯМЕЦКУ

Ferdinand Neureiter. **Weissrussische Anthologie Ein Lesebuch zur weissrussischen Literatur (mit deutschen Uebersetzungen).** Slavistische Beitraege. Band 162. Verlag Otto Sagner. Muenchen, 1983.

У Мюнхэне, у выдавецтве Отта Загнэра, у сэрыі „Славянскія Дасьледаваньні" (пад нумарам 162), выйшла сёлета кніга аўстрыйскага літаратуразнаўца Фэрдынанда Нойрайтэра — „Беларуская анталёгія. Чытанка беларускае літаратуры (зь нямецкімі перакладамі)".

На 230 старонках кнігі: уводны артыкул у беларускую літаратуру і падборка кароткіх тэкстаў-урыўкаў 40 аўтараў, у тым ліку й некаторых, што жывуць у Польскай Народнай Рэспубліцы або на Захадзе. Пра кожнага аўтара дадзеная біяграфічная даведка ды кожны ўрывак тэксту суправедзены нямецкім перакладам. Аўтар анталёгіі пераклаў 78 вершаў, 15 урыўкаў прозы ды 4 ўрыўкі з драматургічных твораў.

Зь беларускіх эміграцыйных паэтаў прадстаўленыя ў анталёгіі Натальля Арсеньнева й Рыгор Крушына. Улучаны ў кнігу таксама Францішак Аляхновіч, пра якога зьмешчаны артыкул у гэтым нумары газэты.

Цана кнігі — 29 ням. марак.

## СУСТРЭЧА З ДР. Ш. ЗЫМЭРАМ

У сераду 1 чырвеня сёлета ў Нью Ёрку, у памешканьні Фундацыі імя Ўілкі (Мангатэн) сябры й госьці Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва мелі нагоду пазнаёміцца з др. Шчэпанам Зымэрам і сп-няй Галінай Зымэр. Сустрэчу арганізавала ўправа БІНіМ з нагоды выхаду ў сьвет кнігі др. Зымэра пра пачаткі кірылічнага друку ў Кракаве ў канцы XV-га ст. У кнізе шмат пішацца таксама пра беларускага першадрукара Францішча Скарыну (гл. у гэтым нумары газэты карэспандэнцыю „Новая кніга зь гісторыі кірылічнага друку").

Аўтар кнігі (у якой, дарэчы, упяршыню ў гісторыі скарынаведы зьмешчаны каляровы здымак партрэту Францішка Скарыны, як ён намаляваны ў Актавай Залі Падуанскага ўнівэрсытэту) расказаў пра даўгі й складаны працэс росшукаў матар'ялаў да кнігі ды ейнага друкаваньня, дзякаваў прысутнаму на спатканьні др. Вітаўту Тумашу ды іншым сябром БІНіМ за выдатнае супрацоўніцтва.

Старшыня БІНіМ др. Вітаўт Кіпель перадаў аўтару кнігі др. Зымэру грамату аб наданьні яму ганаровага сяброўства ў БІНіМе ды падзякаваў ад імя прысутных за прыемнасьць сустрэчы.

Пра выхад кнігі, у тым ліку й сустрэчу з аўтарам БІНіМе, пісаў польскі друк у Амэрыцы. Ньюёркаўская газэта „Новы Дзеньнік" за 16-га чырвеня зьмясціла прыхільную рэцэнзію на кнігу Шчэпана Зымэра.

**Я.З.**

## ПРАСТОЛЬНАЕ СЬВЯТА

Прыход сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гіле (раён гор. Нью Ёрку) сьвяткаваў 22-га травеня дзень свайго патрона. Каб сьвята было больш урачыстым, наш настаяцель а. Рыгор загадзе падумаў аб тым, каб адбылася архірэйская багаслужба. Быў запрошаны Епіскап Амісаскі Мікалай (Сьміско). Экзарх Канстантынопальскага Патрыярха. Архіепіскап Якавас, даў сваё блаславенства, і Ўладыка Мікалай прыбыў у нашую царкву.

Сустракалі-віталі Епіскапа а. Рыгор словамі, царкоўная ўправа хлебам і сольлю, а дзеці кветкамі.

У царкве Ўладыку аблачалі на кафэдры, пасьля чаго пачалася служба. Паколькі ў нас ня часта бываюць архірэйскія службы, дык гэтая ўрачыстасьць запраўды напоўніла царкву. Настрой быў узьнёслы й малітоўны. Хор пад кіраўніцтвам сп. С. Жамойды сьпяваў надзвычайна добра, і гэта ўсім дало асалоду. Прычашчаў вернікаў Уладыка Мікалай.

Малебен Уладыка Мікалай адслужыў у суслужэньні а. Рыгора. Гэта таксама была ўнікальная багаслужба ў нашай царкве. Перад цалаваньнем крыжа Епіскап сказаў пропаведзь аб жонах-міраносіцах ды закончыў прагалошаньнем „многалецьця".

У царкоўнай залі адбыўся сьвяточны абед. Старшыня царкоўнае ўправы сп. К. Мярляк вітаў і дзякаваў Уладыку Мікалаю за адведзіны нашае царквы. Абед прайшоў у сямейнай прыемнай атмасфэры. Сп. Мярляк дзякаваў жанчынам за так добра прыгатаваныя стравы.

**В.Ш.**

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА НА ЎНІВЭРСЫТЭЦЕ

Сёлета ў часе вясновага сэмэстру (1983 г.) на амэрыканскім ўнівэрсытэце штату Масачусэтс выкладаецца курс беларускае мовы пры часткавай дапамозе матар'ыямі з боку Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку.

## СЬВ. ПАМ. Э. ЗУБКОВІЧ

Эльза Зубковіч — пэдагог, піяністка, кампазытар, былая выкладчыца Менскае Кансэрваторыі, а ў Нью Ёрку — удзельніца шмат якіх культурных імпрэзаў, ладжаных Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем і Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва, памерла ў Нью Ёрку 4 чырвеня 1983 г. на 88-м годзе жыцьця, пра што з сумам паведамляюць ды шчырае спачуваньне сям'і Нябожчыцы выказваюць

**Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне**
**Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва**

**Ад Рэдакцыі „Беларуса":** Пра жыцьцёвы шлях сьв. пам. Эльзы Зубковіч будзе ў наступным нумары газэты.

## СЬВ. ПАМ. ЯЎГЕНЯ ХАНЕЎСКАЯ

Беларускае Аб'еднаньне ў Паўдзённай Аўстраліі (Адэляйда) з сумам паведамляе, што 13 траўня 1983 г. адыйшла на вечны супакой сьв. пам. Яўгеня Ханеўская, пакінуўшы ў смутку дачку Ніну, сына Лёню, заця Ёсіпа, нявестку Валю, пяцёра ўнукаў і двое праўнукаў.

Нябожчыца паходзіла зь вёскі Ніскавічы Крычаўскага раёну Магілеўскае вобласьці, дзе яна нарадзілася 7 сьнежня 1906 году. Пахаваная на могільніку Чэнтальгайм. Была яна ахвярная парахвіянка Беларускае парахвіі й шчырая Беларуска.

Прыехаўшы ў Аўстралію із сваім мужам (памёр у 1969 г.), сьв. пам. Яўгеня Ханеўская хутка далучылася да беларускае грамады ды з усёй магчымасьцяй дапамагала ў беларускім грамадзкім жыцьці. У тым часе вельмі было цяжка знайсьці памешканьне для беларускае мастацкае групы, дык Ханеўскія адступалі сваю хату для заняткаў мастацкага гуртка і цешыліся зь ягоных посьпехаў — што Беларусь жыве і ў Аўстраліі. Сам нябожчык Пятро быў таленавітым аматарам да чытаньня гумарыстычных апавяданьняў ды браў удзел у мастацкіх паказах.

Хай будзе лёгкай аўстралійская зямелька абаім Нябожчыкам ды вечная памяць іхным сьветлым душам.

**Янка Ролсан**

### ПАПРАЎКА

У карэспандэнцыі Янкі Яра з Адэляйды (Аўстралія) у № 310 „Беларуса" была дапушчаная памылка. Было надрукавана: „Сп. Станкевіч прадставіў гасьцей, прачытаў прывітаньні ды зрабіў зьместоўны рэфэрат на тэму дня", а трэба каб было: „Старшыня Беларускага Аб'еднаньня (Янка Ролсан) павіншаваў прысутных са сьвятам 25-га Сакавіка, прачытаў прывітаньні, прысланыя беларускімі арганізацыямі, ды зрабіў зьместоўны рэфэрат на тэму дня".

Выбачаемся за недагляд перад паважным нашым супрацоўнікам Янкам Ярам.

## ПАДПІСКА Й АХВЯРЫ
### на выданьне збору твораў МІХАСЯ КАВЫЛЯ

Атрымана ў храналягічным парадку да 1 ліпеня 1983 г. (працяг)

| | | |
|---|---|---|
| 125. | Дубоўская М. | $ 30.00 |
| 126. | Будзька Ч. | 150.00 |
| 127. | Станкевіч К. (Прыход БАПЦ) | 37.00 |
| 128. | Жызьнеўскі Н. | 20.00 |
| 129. | Юхнавец Я. | 20.00 |
| 130. | Занковіч А. | 20.00 |
| 131. | Кучура М. | 20.00 |
| 132. | Рамук В. і В. | 20.00 |
| 133. | Пунтус В. (ахвяра да падпіскі) | 10.00 |
| 134. | Сідарэвіч Л. (ахвяра на кніжны фонд) | 10.00 |
| 135. | Шабан К. | 20.00 |
| 136. | Каралюк В. | 20.00 |
| 137. | Вароніч Л. | 20.00 |

**Разам: $397.00**

З папярэдняй падпіскай і ахвярамі агульная сума на 1 ліпеня 1983 г.

**$4.333.00**

Падпіска й ахвяры прыймаюцца далей. Выстаўляць чэкі й пісаць на адрыс:

Byelorussian Institute of Arts & Sciences, Inc.
230 Springfield Ave.
Rutherford, N.J. 07070

### ПАПРАЎКА

Сп. Я. Гуткоўскі ахвяраваў на да-10 дал., а 20; ад сп-ні К. Шэлест на 10 дал.. а 20; ад сп-ні К. Шэлест на выдавецтва „Беларуса" было атрымана ня 50, а 60 даляраў. Выбачаемся.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

**У красавіку-травені 1983 г.**

**Перасланa беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Беларускі Клюб „Сакавік" у Брадфордзе (Анг.) | $312.00 |
| 2. | В. Гуцька | 133.00 |
| 3. | Б. Прытыцкі | 100.00 |
| 4. | П. Барысік | 70.30 |
| 5. | Л. Брылеўская | 50.00 |
| 6. | В. Сянькевіч | 50.00 |
| 7. | Я. Баран | 39.80 |
| 8. | М. Булыга | 32.80 |
| 9. | І. Муха | 25.00 |
| 10. | Стаўпецкі | 20.00 |
| 11. | Ул. Дудка | 20.00 |
| 12. | К. Дзеравенка (у памяць Мужа) | 20.00 |
| 13. | К. Акула | 15.00 |
| 14. | П. Ермін | 15.00 |
| 15. | Я. Вініцкая | 15.00 |
| 16. | Л. і В. Кажан | 15.00 |
| 17. | Б. Б. Паук | 12.00 |
| 18. | Н. Латушкін | 12.00 |
| 19. | П. Конюх | 10.00 |
| 20. | Н. Лапушынскі | 10.00 |
| 21. | Н. Арлова | 5.00 |
| 22. | Б. Вініцкая | 5.00 |
| 23. | Н. Кушаль | 30.00 |

**Разам: $1016.90**

| | | |
|---|---|---|
| 24. | А. Калодка (аўстрал дал.) | 10.00 |
| 25. | Б. Кірка (кан. дал. | 20.00 |

**Праз прадстаўніка „Беларуса" сп. Б. Даніловіча — падпіска й ахвяры:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | А. Жылік | $40.00 |
| 2. | А. Е. | 36.00 |
| 3. | П. Кажура | 30.00 |
| 4. | С. Гутырчык | 25.00 |
| 5. | ЗБАВ у Нью-Джэрзі | 25.00 |
| 6. | М. Каранеўскі | 25.00 |
| 7. | Ю. Станкевіч | 22.00 |
| 8. | Ч. Ханяўка | 22.00 |
| 9. | Д. Дзядовіч | 20.00 |
| 10. | Ул. Машанскі | 20.00 |
| 11. | А. Даніловіч | 20.00 |
| 12. | К. Стрэш | 20.00 |
| 13. | А. Сільвановіч | 20.00 |
| 14. | А. Корбут | 20.00 |
| 15. | Г. Дубяга | 15.00 |
| 16. | Т. Супрун | 15.00 |
| 17. | К. Колбік | 15.00 |
| 18. | А. Непеін | 15.00 |
| 19. | А. Протас | 15.00 |
| 20. | В. Стома | 15.00 |
| 21. | В. Харавец | 15.00 |
| 22. | Л. Стагановіч | 13.00 |
| 23. | М. К. | 12.00 |
| 24. | Я. Цупрык | 12.00 |
| 25. | В. Ш. | 12.00 |
| 26. | М. Януш | 12.00 |
| 27. | Ю. Стагановіч | 12.00 |
| 28. | Я. Літвіненка | 12.00 |
| 29. | Н. М. | 12.00 |
| 30. | Ю. Азарка | 12.00 |
| 31. | В. Кабушка | 12.00 |
| 32. | Р. Галяк | 12.00 |
| 33. | П. Орса | 12.00 |
| 34. | К. Кляйнбах | 10.00 |
| 35. | К. Варэла | 10.00 |
| 36. | В. Ц. | 2.00 |

**Разам: $617.00**

**Усяго разам у красавіку-травені:**

| | |
|---|---|
| ам. дал. | 1633.90 |
| кан. дал. | 10.00 |
| аўстр. дал. | 20.00 |

**Усім ахвярадаўцам, падпішчыкам і прадстаўніком газэты шчыры беларускі дзякуй!**

## „КОНСКАЯ" ПРАБЛЕМА

„У мінулае адыйшоў селянін з сахою, а разам зь ім і яго Буланы. Цяпер гаспадарыць тэхніка. Куды да яе каню!...

„За апошнія 15 гадоў у рэспубліцы скарацілася колькасьць коней без малога на 159 тысячаў.

„... Рэзка зьнізілася і вытворчасьць конскага інвэнтару. Да канца 50-ых гадоў забясьпечаньне ім гаспадарак плянавалася, выдзяляліся фонды на збрую, колы, сані, падковы, цьвікі. Цяпер-жа дастаць конскую збрую бывае цяжэй, чым ... экскаватар".

**„Зьвязда", 18 студзеня 1983 г.**

 